PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (1938) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 4 ЛІПЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Прапануем канікулы на Беласточчыне. Нарва каля Плёскаў.* Фота В. Рудчыка

## І ЗНОЎ ВЫБАРЫ!

Яшчэ не пагаслі эмоцыі ад папярэдніх выбараў, а ўжо ўздымаецца новая хваля, якая неўзабаве ўскалыхне грамадствам, давядзе да большай актыўнасці адных і поўнай разгубленасці другіх. Пакуль што ў кабінетах разыходзіцца рэха шэптаў г.зв. палітыкаў, вырашаюцца кантракты і дагаворы: хто, каму і за што. У мяккіх крэслах расселіся царыкі і думаюць, за якую нітачку і калі пацягнуць. Але гэта толькі рэпетыцыі. Спектакль пачнецца недзе ў канцы жніўня або на пачатку верасня. Феадальнае грамадства будзе глядзець п'есу п.з „Дэмакратыя", а пры канцы адбудзецца плебісцыт на найлепшага выканаўцу сваёй ролі. Так ці інакш нудна не будзе.

У беластоцкім запаведніку, хаця ветру яшчэ няма, трава ўжо калышацца. За апошніх пару гадоў узніклі тут новыя нацыі — украінцы, рускія, у чарзе — яцвягі і палоўцы. Найменш відаць тут беларусаў. Проста не выпадае галасна прызнавацца да такога народа. Гэта ж — усе згодна сцвярджаюць — нацыяналізм! Дзе ж тады тыя беларусы, а можа іх тут сапраўды ўвогуле няма. Але ж ёсць, ёсць і то ад стагоддзяў такія самыя. Вякамі ў іх на вуснах тыя самыя словы: „Прабачце, пане, што жыву", „Дазвольце, барын, у маёй хатцы хаця ў сенях пабыць, бо за акном холад і дождж ". Толькі як чарку вып'ем, тады разрываем кашулю на грудзях з крыкам: „Я — беларус!" Пазбаўлены свае дзяржаўнасці і элітаў, народ дайшоў амаль да духоўнай смерці. Толькі мерцвяку можна гаварыць: ты паляк, рускі, украінец, яцвяг, а ён успрымаць будзе ўсё гэта спакойна. Не заўважаем, што цэлымі дзесяцігоддзямі хаваемся толькі выключна перад сабой. Усе іншыя даўно нас адназначна акрэслілі і з пагардай глядзяць на нашыя падлізніцкія манеўры.

Безупынна цяпер чуецца як таго ці іншага г.зв. „нашага" нехта пакрыўдзіў і выкінуў з працы, што стары партыйны сябра не хацеў нават пазнаць таварыша беларуса, хаця той цэлае жыццё быў прыкладным тутэйшым ці палякам, што нейкі ўраднік адмаўляецца аддаць нікому непатрэбны будынак пад школу, бо там маглі б навучаць беларускай мове... І плачуць ад бяссілля „нашыя людзі", наракаюць на ўладу, праклінаюць начальства.

Але ўлада не вінаватая, бо яе ствараюць людзі, якіх мы выбіраем... Што нам перашкаджала мець сваіх войтаў, бургамістраў у Бельску, Гайнаўцы, Міхалове, што перашкаджала нам мець сваіх паслоў у Сейме, якія мелі б змагацца за інтарэсы свайго народа, там дзе ёсць найбольшыя магчымасці нечага дабіцца? Але хто паверыў тым, хто па-цвярозаму рваў сваю кашулю на грудзях ад болю з-за абыякавасці нашага грамадства, якое або спала, або пайшло за ўсялякімі махлярамі, што цынічна выкарыстоўвалі яго наіўнасць. Беларусы ў 1991 г. галасавалі на ўсіх, толькі не на сваіх. Прайшлі два гады і зноў, як гратэск, выплываюць тыя самыя лозунгі, тыя самыя прывіды, тая самая разгубленасць. Хто мае растлумачыць людзям сітуацыю, каму паверыць, за кім пойдуць? Тры гады таму спробу адукацыі грамадства ўзяло на сябе Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Але тое, што гаварылі лідэры БДА, было незразумелае нават гмінным урадн́ікам.

Прапанавалася тады падрыхтавацца да самаўрадавых выбараў, стварыць эканамічны саюз гмінаў усходняй Беласточчыны, сабраць сродкі на інвестыцыі, якія мелі служыць перапрацоўцы мясцовай сыравіны: малачарні, млыны, мясакамбінаты, сталярні. Навошта прадаваць літр малака за 2 тысячы зл., калі б была магчымасць пераўтварыць яго на нейкі „ёгурт" і дастаць за той самы літр 10 тысяч. Навошта аддаваць амаль за дарма драўніну, калі можна яе прадаць як нейкі прадукт за пяцікратна большую цану. Ствараліся магчымасці здабыць замежны капітал на гэтыя інвестыцыі. Быў шанц стварыць месцы працы, даць людзям занятак. Патрэбная была толькі добрая воля гміннай наменклатуры і трошкі рызыкі. Але прапанову БДА пачалі разглядаць як нейкую правакацыю або махлярства. Адны крычалі, што гэта, мабыць, падрыхтоўка да адлучэння Беласточчыны ад Польшчы, другія — як войт гміны Бельск-Падляшскі Ю. Ігнацюк на канферэнцыі ў Супраслі ў маі 1991 г. — падазравалі ў гэтым плане нейкую мафійную структуру, якая мела падпарадкаваць гаспадарку аб'яднаных у саюзе гмінаў кіраўніцтву БДА. Выбары восенню 1991 г. даказалі, што ні эканамічныя, ні палітычныя канцэпцыі БДА не маюць адпаведнай грамадскай падтрымкі. Амаль усё забраў Цімашэвіч, пакінуўшы нейкія рэшткі „прасваслаўным". Сёння сітуацыя паўтараецца. Вядома, што сучасны Ілья-прарок — Валодзька — мае за сабой большасць Беласточчыны, і калі стварыўся Выбарчы камітэт праваслаўных зноў паўстае пытанне: ці патрэбны зноў „беларускі" камітэт, які

☞ Працяг на стар. 4

## Н.К. У „НІВУ" НЕ ВЕРНУЦЦА

У пятніцу 18 чэрвеня ў нашай рэдакцыі злавесна забрынкаў тэлефон. Было ўжо пасля абеду. Добра зарыентаваная крыніца паведаміла нам аб чарговай пакражы ў будынку Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Але гэта яшчэ нічога — з пакражамі мы ўжо неяк зжыліся, абкрадаюць асабліва цэрквы. Працаўнікоў рэдакцыі паралізавала другая частка весткі — Таварыству свіснулі камп'ютэры. Так, так — Няшчасныя Камп'ютэры, бо Н.К. тое менавіта і значыць.

За апошнія два-тры гады ўвесь выдавецкі працэс камп'ютэрызаваўся і ў беларускім асяроддзі. Спярша камп'ютэрызавалася „Ніва", з ёю „Белавежа", а пазней і выбарчыя кампаніі. Тэхніка была нічога сабе — адзіная такая ў Беластоку. Прыгажэйшай стала „Ніва", „Белавежа" паскорыла выпуск сваіх кніжак, някепска выглядалі і выбарчыя плакаты. Эх, тэхніка!

На жаль, у сітуацыі, калі адбываецца нешта станоўчае, заўсёды ўзнікаюць эмоцыі. Беларускае грамадска-культурнае таварыства забрала камп'ютэры да сябе, пад ключ. З фармальнага пункту гледжання мела яно ўсе падставы дзеля гэтага — датацыя ўрада Т. Мазавецкага для беларускай меншасці прайшла ўсёткі праз рахунак Таварыства, значыць Н.К. купленыя за гэтыя грошы — уласнасць БГКТ. З маральнага ж пункту погляду крок гэты прынёс адну шкоду — Н.К. перасталі каму-колечы і чаму-колечы служыць. „Ніва" неяк справілася з праблемай. Іншыя арганізацыі (Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае аб'яднанне студэнтаў) перадалі ёй у неадплатнае карыстанне сваю тэхніку. Зрабілі гэта без эмоцый і таму, мабыць, іхняя дапамога служыць „Ніве" па сённяшні дзень.

У камплект апаратуры ўваходзілі: лазерная і ігольчатая друкаркі, сканер і чатыры камп'ютэры. Тры служылі галоўным чынам, як звычайныя машынкі, на якіх машыністкі набіралі тэксты. Чацвёрты, найбольшы, як сваімі памерамі, так і вылічальнай магутнасцю, служыў для канчатковага набору матэрыялу і яго вёрсткі.

Зладзеі свіснулі тры маленькія камп'ютэры. Сканер, лазерная друкарка і галоўны камп'ютэр уцалелі. На шчасце. Меркаваць тут можна па-рознаму — мабыць, зладзейская хеўра не надта добра падрыхтавалася і не змагла вывалачы ўсяго. У такім жа, аднак, выпадку можна спадзявацца, што зладзеі паруплюцца зрабіць другі падыход. Сябры, ратуйце маёмасць!

Прычынай не надта добрых адносін паміж рэдакцыяй „Нівы" і БГКТ была крытыка ў адрас БГКТ, якая змяшчалася на старонках тыднёвіка. Крытыка такая фактычна ў свой час у нашым тыднёвіку змяшчалася — ніколі аднак, трэба тут адзначыць, не крытыкавалі мы беспадстаўна. Сёння, калі хто-колечы ў „Ніве" мае якую-небудзь прэтэнзію да Таварыства, то толькі і выключна з-за гэтых Няшчасных Камп'ютэраў. Цяпер, калі зладзеі пачалі раскрадаць і гэта, не маем ужо да Таварыства ніякіх прэтэнзій. Н.К. у „Ніву" не вернуцца, а значыць гэта — няма за што спрачацца. Канец.

☞ Працяг на стар. 4

# ПАНАРАМА ЧЫЖОЎСКАЙ ГМІНЫ (IV)

**Вада чыстая як крышталь**

Найперш ваду з крана мелі жыхары Шастакова, затым насельніцтва вёсак Мора, Чыжоў, Збуча і Кленікаў. Зараз на такія інвестыцыі ў гміне вялікае запатрабаванне. Цяпер рыхтуюць дакументацыю на пабудову водаправоднай лініі ў Асоўцы, Койлах і Курашаве. Глыбінныя артэзіянскія калодзежы ўжо ёсць у Койлах, Чыжах і Кленіках.

У вёсках пабудавалі таксама шматлікія супрацьпажарныя басейны. У некаторых з іх — па некалькі. У 1991 годзе паставілі запруджваючую плаціну на рацэ Локніцы, каля Лядаў, каб павысіць узровень вады. Як вядома, меліярацыя мае і адмоўны ўплыў, між іншым, зусім „высушыла" некаторыя студні. Зараз не хапае дастатковай колькасці вады для збожжавых культур на палях і для траў на зялёных угоддзях.

**Ало! Ало!**

Зараз у Чыжоўскай гміне ўсе васемнаццаць сялэцкіх вёсак маюць тэлефонную сувязь. У 1990 годзе на пошце ў Чыжах здалі ў карыстанне аўтаматычную тэлефонную станцыю. Тады і па пяцьдзесят тэлефонаў падключылі ў вёсках Мора і Збуч, ды яшчэ ў пасёлку Слівова — пятнаццаць. Жыхары самі дапамаглі будаваць падземную тэлефонную лінію — капалі равы і пракладалі кабелі 80 сантыметраў пад зямлёй.

**Новыя пабудовы**

У Чыжоўскай гміне ёсць тры цэрквы: у Чыжах, Кленіках і Курашаве. Зараз храм у Чыжах адбудоўваюць пасля пажару. Парафіяне намераны закончыць пабудову сёлета перад Спленнем, якое святкуецца 28 жніўня.

А каля вёскі Збуч, побач шасейнай дарогі з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі, суполка „Пронар" з Нарвы распачала пабудову бензастанцы. На месцы будзе бар-кавярня. Дагэтуль у гміне не было прыватнай сталовай ці заезнага дома.


*Пракладка тратуараў у Кленіках.*

**Бібліятэкі і... „Ніва"**

Наведаў я гмінную публічную бібліятэку ў Чыжах і яе філіял у Кленіках. У Чыжах бібліятэкаршай працуе Галена Стоцкая. У яе амаль восем з палавінай тысяч тамоў, у тым ліку беларускія кніжкі, ды 235 чытачоў. Сёлета купіла яна 89 кніжак за мільён злотых. Дзеля лепшай эстэтыкі паклапацілася яшчэ пра новыя фіранкі і заслоны.

Найбольш тут чытаюць: Марыя Якімюк, Георгій Якімюк, Надзея Бэбка, Ян Велясюк, Крыстына Пятроўская, Ніна Данялюк і Яўген Саенка. З моладзі кніжкамі найбольш цікавяцца Агнешка Ваўранюк, Кася і Анжэліка Галёнка ды Юліта Астапчук. Пастаяннымі наведвальнікамі публічнай бібліятэкі з'яўляюцца перш за ўсё вучні, між іншым з Чыжоў, Койлаў, Асоўкі, Мора і са Збуча. З чэрвеня гэтага года ў Чыжоўскай бібліятэчнай чытальні можна ўжо чытаць „Ніву".

Бібліятэкарша з Кленікаў Марыя Купрыяновіч мае — таксама як і ў гміннай бібліятэцы — каля 8,5 тысячы кніжак, але менш, зразумела, чытачоў — бо 140. Думаю, што цікава будзе прасачыць, колькі кніжак купляла яна ў бібліятэку раней і ў гэтым годзе. Дык вось: у 1989 годзе — 364, 1990 г. — 141, 1991 г. — 104, 1992 г. — 74 і ў 1993 годзе — 47 кніжак.

У кленіцкай бібліятэцы сярод іншых газет і часопісаў на паліцы ёсць „Ніва". Карыстаюцца бібліятэкай чытачы з Кленікаў, Курашава і Лянева. Найбольш чытачоў ва ўзросце да 15 гадоў — 77, ва ўзросце 15—19 гадоў — 22, 20—29 гадоў — 14 і больш за трыццаць гадоў — 27 чытачоў.

Як я даведаўся на пошце ў Чыжах, сюды кожны тыдзень прысылаюць усяго чатыры-шэсць экземпляраў „Нівы" у розьнічную продаж. Зваротаў не было. На беларускі тыднёвік падпісалася толькі адна настаўніца. І менавіта тады, калі ў „Ніве" пачалі друкаваць „Панараму Чыжоўскай гміны..."

Тэкст і фота
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

*Заўвага: Папярэднія часткі "Панарамы..." друкаваліся ў 19, 20 і 23 н-рах "Нівы"*




*СЕРАФІМ КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ*

## ПРУЖАНСКІ ШЛЯХ

*Беларускім дзецям*

Чаму
у Мухаўцы
вада,
вада цікавая
і вельмі жвавая?

Корціць яе
Кобрын,
Драгічын
ды Модлін,

А далей
Гнеў ды
Тчэў.

Які ж яе цэль?
Можа Гэль?

Даеш ёй
Балтыйскае
мора

Даеш ёй
Капенгаген ды
Гаагу,

Але такі
душы яе
стан

Што патрэбны
ёй
а-к-і-я-н!

Каб
прыкархнуць
крыху
ў дарозе

Або й
паставіць
на ўсім
хрэст,

Разам з Бугам
ды Віслай
і... буслам
у французскі
загляне
Брэст

## ЛЕПЕЙ ПАЗНЕЙ, ЧЫМ ЗУСІМ...

Нястрымана бяжыць час, спыніць яго немагчыма. Астаюцца толькі ўспаміны. Многае цяпер перамянілася. Добрае хутка забываецца, а непрыемнае і сумнае - памятаецца даўжэй. Я аднак з прыемнасцю ўспамінаю сяброў-карэспандэнтаў. Тыя з'езды, сустрэчы, спрэчкі і заўсёды радасную Веру. Прабачце, што пішу проста Вера, а не пані, ці як цяпер модна - спадарыня, але яна была сапраўды нашай сардэчнай сяброўкай, апякункай, нашым "акумулятарам", заахвочваючым да працы. Здавалася няраз, што кінеш усё, пісаць перастанеш, а калі паедзеш на з'езд, пагаворыш, сустрэнешся з людзьмі, вяртаешся і бярэшся зноў за працу. А галоўны рэдактар Г. Валкавыцкі, заўсёды ўпэўнены ў сябе. Знаходзіў час з кожным пагаварыць, кожнаму параіў. Памятаю, аднойчы напісаў я нешта на рэлігійную тэму. Паказаў Валкавыцкаму, а ён гаворыць: - Не пойдзе. - Чаму? - пытаю. - Калі б не гэты "белы дом", што недалёка нас, тады надрукавалі б без праблемы. А так - іх верх і канец, - адказаў рэдактар. Час усё адмяніў. Усё можна друкаваць. На жаль, усе сябры адышлі. Галоўнаму 70 гадоў ужо стукнула. Не паспеў я павіншаваць яго ў час, але думаю, што лепей пазней гэта зрабіць, чым зусім прамаўчаць. І калі можна, дык жадаю Вам, пане Валкавыцкі, ад шчырага сэрца ўсяго найлепшага ў жыцці, многа квітнеючых веснаў і лёгкіх зімаў, моцнага здароўя і спакойнага жыцця. Жадаю таксама плённай працы на літаратурнай ніве!

А да былых і цяперашніх карэспандэнтаў хачу звярнуцца і запытаць: А калі б цяпер з'езд зрабіць? Было б аб чым пагаварыць, сустрэцца з сябрамі і пазнаёміцца з незнаёмымі і рэдакцыйным калектывам.

А што на гэта "Ніва"? Вядома, усім цяпер не лёгка. Але варта пра гэта падумаць. Напішыце, дайце свае прапановы. Можа мае мары і не найлепшыя, але так думаю. Жывем цяпер у вольнай краіне і можам рабіць, што захочам, апрача злачынстваў, вядома. І няхай гэта заўсёды так астанецца. Але даволі марыць! Калі пішу гэты допіс, пачынаецца чарговы гарачы дзень. Зараз трэба будзе ісці да сена. Але цяпер, больш чым сонца, трэба дажджу.

Вось так напісаў я патрошку аб усім, але настаў такі час, што і аб усім трэба думаць. Бывайце здаровы.

**Г. МАРОЗ**

**Ад рэдактара:** Прапанова спадара Г. Мароза, так як і ранейшыя прапановы іншых нашых карэспандэнтаў, пераконвацюць мяне, што з'езд усіх стваральнікаў "Нівы" павінен адбыцца як найхутчэй. У рэдакцыі разглядаліся два тэрміны: першы - у апошнюю нядзелю ліпеня і другі - у перадапошнюю нядзелю кастрычніка. Першы тэрмін быў бы выгаднейшым нашым гарадскім карэспандэнтам, другі - праўдападобна гаспадарам, бо працы ў полі ўжо скончацца. Але чакаю прапаноў ад Вас, шаноўныя карэспандэнты, у гэтай справе. Мне асабіста хацелася б сустрэцца з Вамі, каб пазнаёміцца з людзьмі, якія ў сапраўднасці ствараюць найбольш цікавую частку нашага тыднёвіка. Мне здаецца, што тэрмін 24 кастрычніка зручнейшы, бо будзе больш часу, каб усім падрыхтавацца да дыскусіі і скончыцца да гэтага часу палітычная бура, якая набліжаецца ў сувязі з парламенцкімі выбарамі. Не хачу аднак накідаць сваёй волі і буду чакаць Вашых выказванняў. Сардэчна запрашаю ў рэдакцыю ўсіх тых, хто пастаянна піша ў "Ніву", як і тых, якія пісалі калісьці, і па таких ці іншых прычынах парвалі сувязь з рэдакцыяй.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЗАБЫТЫЯ СКУЛЬПТУРЫ

У Белавежы, побач прыпынка ПКП, стаіць ужо чатырнаццаць гадоў, кампазіцыя з калодаў дрэў. Выставіў яе скульптар з Амерыкі, Іеранім Жміеўскі.

Скульптура гэтая ад самага пачатку выклікала здзіўленне ў прахожых. Людзі не ведаюць, што яна прадстаўляе, чаму яна тутака. Турысты, бывае, думаюць, што гэта нейкая павець, якая павалілася. „Павець" за чатырнаццаць гадоў спарахнела, пастарэла, і надаецца толькі да ліквідацыі. На жаль, ніхто пра гэтае не клапоціцца.

Іншая, таксама кранутая „зубам" часу скульптура стаіць побач рэстарана „Іва". Гэта выразаная ў калодзе дрэва скрыпачка. Пакуль нешта было відаць, турысты згадвалі — на чым яна іграе, бо скрыпку музыкантка трымала надта нізка. Цяпер ужо цяжка згледзець у гэтай калодзе нават і скрыпачку.

Цікава, як доўга яшчэ гэтыя скульптуры пратрымаюцца? А мо ўсё ж такі лепш было б на іх месцы паставіць нешта новае?

**П. БАЙКО**
**Фота С. Тарасевіча**


*Рэшткі кампазіцыі Іераніма Жміеўскага.*

# БЕЛАРУСКІ БІЗНЕС-КЛУБ

*Ніжэй друкуем зварот ініцыятыўнай групы па стварэнню Таварыства „Беларускі бізнес-клуб".*

**ШАНОЎНЫЯ СУРОДЗІЧЫ!**

Група жыхароў Варшавы, якія лічаць сябе паклоннікамі, а нават дочкамі і сынамі БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ, вырашыла праявіць новую ініцыятыву станоўчых дзеянняў на карысць БЕЛАСТОЦКАГА РЭГІЁНА як РОДНАЙ ЗЯМЛІ і дзеля будавання масту між суседзямі: РЭЧЫПАСПАЛІТАЙ ПОЛЬСКАЙ і РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ — ініцыятыву стварэння ТАВАРЫСТВА „БЕЛАРУСКІ БІЗНЕС-КЛУБ".

Мяркуем, што ў сённяшнім цяжкім перыядзе толькі шырокая ініцыятыва будавання эканомікі на новых прынцыпах, эфектыўнага выкарыстання раздзяляючай нас мяжы з мэтай лепшага выкарыстання магчымасцей УСХОД — ЗАХАД, можа прынесці нашай „УСХОДНЯЙ СЦЯНЕ" дастатак і грамадска-культурнае развіццё.

Гэтай ідэі спрыяюць многія бізнесмены з варшаўскага асяроддзя, а таксама і ўлады нашага суседа — РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ падобную ініцыятыву праяўляе польская нацыянальная меншасць пры канкрэтнай падтрымцы ўрада Рэспублікі Беларусь.

Незалежна ад вышэйзгаданага ўлады розных інстанцый РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ і РЭЧЫПАСПАЛІТАЙ ПОЛЬСКАЙ ствараюць шэраг міждзяржаўных і міжрэгіянальных устаноў (напрыклад супольны банк, гаспадарчыя палаты, новыя кантрольна-прапускныя пункты толькі для грамадзян абодвух дзяржаў-суседзяў), каб супрацоўніцтва паміж нашымі народамі паднясць на вышэйшы ўзровень.

Не будзьма абыякавымі на прызыў часу, пакіньма лозунг „наша хата з краю" і ўключмася цэлым сэрцам у згаданую справу, нягледзячы на падзелы ў нашым грамадстве.

У ТАВАРЫСТВЕ „БЕЛАРУСКІ БІЗНЕС-КЛУБ" хочам згуртаваць людзей бізнесу вялікага маштабу, добрых купцоў і вытворцаў, арганізатараў прадукцыі і гандлю — кіраўнікоў фірмаў розных відаў уласнасці (дзяржаўныя, кааператыўныя, прыватныя), асабліва тых мясцовых, на паграніччы, навукоўцаў і прадстаўнікоў вольных прафесій, культуры і мастацтва, царкоўных арганізацый і харытатыўных фондаў — адным словам, хочам стварыць ФОРУМ дзеля абмену і практычнага садзейнічання і самадапамогі, элемента, які меў бы дарадчы характар і ствараў лобі для ўрадаў абодвух суседніх дзяржаў.

Хочам, пры нагодзе асабістых кантактаў, як і кантактаў нашых рэгіянальных таварыстваў і зямляцтваў Беларусі, уключыцца ў рэчышча людзей добрай волі з розных краін свету, якім БЕЛАСТОЧЧЫНА і БЕЛАРУСЬ былі і ёсць блізкія сэрцу.

Гэтым самым створым разгалінаваную ПРАДСТАЎНІЧУЮ СЕТКУ для гаспадарчага абмену (навуковага, тэхнічнага і гандлёвага) між прадпрыемствамі БЕЛАРУСІ (у далейшым Расіі, Украіны, Літвы) і Польшчы, а таксама заходніх краін, узмацняючы гэтым шляхам эканамічную магутнасць сваіх прадпрыемстваў.

Хочам таксама ў выніку дзеяння гэтага таварыства накапліваць фонды на развіццё культуры і мастацтва, на ахову помнікаў і нацыянальна-рэгіянальных традыцый БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ, на вяртанне да карэнняў.

Ініцыятыўная група звяртаецца з просьбай да СУРОДЗІЧАЎ станоўча адгукнуцца на наш заклік, праявіць ахвоту АКТЫЎНА ўдзельнічаць у ТАВАРЫСТВЕ „БЕЛАРУСКІ БІЗНЕС-КЛУБ" і абяцаць фонд на яго арганізацыю і ўтрыманне (уступны ўзнос + гадавая складчына).

Дзеля кансультацыі прадстаўляем прапановы сядзібы таварыства:

1. Варшава,

дадатныя якасці: адміністрацыйны і камунікацыйны цэнтр краіны, непасрэдная сувязь з дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі, аўтаматычная міжнародная тэлекамунікацыйная сувязь, наяўнасць падрыхтаванай кадры ў галіне замежнага супрацоўніцтва.

заганы: аддаленасць ад беластоцкага асяроддзя і рэгіёна, наяўнасць падобных клубаў і гаспадарчых палат, высокія кошты арэнды памяшканняў і мытных складоў.

2. Беласток,

дадатныя якасці: адміністрацыйны і камунікацыйны цэнтр беластоцкага рэгіёна, наяўнасць сур'ёзных фірмаў, зацікаўленых усходнім рынкам, якія ўжо гандлююць з Беларуссю, непасрэдны кантакт з рэгіянальнымі арганізацыямі, епархіямі ПАПЦ, выдавецтвамі, блізкасць да кантрольна-прапускных гранічных пунктаў,

заганы: светапогляды разлад у асяроддзі і паміж беларускімі арганізацыямі, абмежаваная міжнародная тэлекамунікацыйная сувязь, вялікая колькасць фірмаў падобнага профілю.

3. Гайнаўка,

дадатныя якасці: кватэрнае і маральнае забеспячэнне — Беларускі музей, Дом культуры і школы, магчымасць стварэння мытных складоў і перагрузачных пунктаў паблізу тварных гранічных пераходаў у Семяноўцы і Чаромсе, танныя пляцы і нерухомасці, турыстычна-выставачная база.

4. Адпаведнае спалучэнне трох цэнтраў (як!?).

Чакаем адказу і шлем найлепшыя прывітанні.

Ад імя Ініцыятыўнай групы:
**мгр інж. Юрка Бусловіч,**
**мгр Ян Заброцкі**

Часовы адрас для карэспандэнцыі:
G.I. Stow. BBK
Warszawa
Poczta Główna
Skr. pocztowa 244

# ЯКІЯ ВОЙНЫ ПРЫНЕСЛІ НАЙБОЛЬШЫЯ СТРАТЫ НАРОДУ БЕЛАРУСІ?

Найбольшай трагедыяй сталася для Беларусі расейскае нашэсце, якое распачаў у 1654 годзе цар Аляксей Міхайлавіч. Тады на знясіленую за 6 гадоў казацкімі наездамі Беларусь рушыла 100-тысячнае войска пад камандаваннем Шарамецева. Актыўныя ваенныя дзеянні цягнуліся 7 гадоў, і гэтыя гады сучаснікі параўноўвалі з патопам. У бітвах, пры асадах гарадоў, ад гвалту загінулі 52 працэнты насельніцтва Беларусі, у некаторых жа паветах — да 70 працэнтаў жыхарства. Расейцы вывелі ў свае гарады і вёскі болей за 300 тысяч беларусаў. Значная частка гэтага палону была прададзена ў рабства. Былі разрабаваныя палацы, храмы, манастыры, вывезеныя ўсе друкарні, кузні, запасы жалеза. Сельская гаспадарка і прамысловасць былі разбураныя расейскімі войскамі дашчэнту. Вынікам гэтай вайны было і тое, што антымаскоўскія настроі стымулявалі рост паланізацыі. Варта адзначыць, што Батыева нашэсце, з часу якога мінула ўжо сем з паловаю стагоддзяў, расейцы ўзгадваюць дагэтуль, а ў нас пра расейскае нашэсце сярэдзіны XVII стагоддзя забаранялася абмовіцца нават словам.

Кожным трэцім жыццём сваіх дзяцей паплацілася Беларусь за развязаную Пятром І Паўночную вайну. Нашы землі сталі арэнай змагання чатырох дзяржаў і шматгадовай расейскай акупацыі. Зноў вынікам вайны былі паўсюдныя магілкі, спаленыя вёскі і гарады, згалелыя людзі, няшчасныя сіроты.

Шасцімесячная вайна Расеі з Напалеонам каштавала беларусам мільёна чалавек — кожнага чацвёртага.

Паўтара мільёна беларусаў загналі ў магілу першая сусветная і грамадзянская войны.

Сталінскі генацыд у 30—40-х гадах, паводле падлікаў навукоўцаў, каштаваў беларускаму народу блізу 2 мільёнаў жыццяў.

Другая сусветная вайна, распачатая Гітлерам і Сталіным, забрала на той свет у Беларусі 2 мільёны 250 тысяч чалавек.

Расейцы, немцы, палякі лічылі сябе народамі, якія нясуць крыж Божай місіі, і калі захоплівалі землі суседзяў, дык прымушалі на свой крыж маліцца і лічыць сябе за вызваленцаў. Беларусы ж здаўна нясуць крыж пакуты. У гэтай розніцы крыецца галоўная несумяшчальнасць псіхалогіі беларусаў з псіхалогіяй расейцаў ці палякаў, якія і сёння (...) праз царкву, касцёл (...) выказваюць намер зацвердзіцца на Беларусі з правам непавагі да нашай культуры, мовы, мінуўшчыны.

*(„ЗВЯЗДА", н-р 113, ад 15 чэрвеня 1993 г.)*

# І ЗНОЎ ВЫБАРЫ!

☛ *Працяг са стар. 1*

здабыў бы пэўна пару тысяч галасоў, але без вялікага шанцу па поспех? Сярод кіраўніцтва БДА і арганізацыяў аб'яднаных у Беларускім саюзе РП дамінуе перакананне, што беларускаму грамадству Беласточчыны непатрэбны чарговыя расколы, спрэчкі, прапагандысцкія войны, кампраметуючая ўсіх выбарчая кампанія. Калі пішу гэты артыкул, разглядаюцца ўсякія варыянты выхаду з існуючай сітуацыі. Прапануецца некаторымі дзеячамі не ствараць свайго нацыянальнага камітэта, каб даць шанц тым беларусам, якіх запрапанавала Праваслаўнае брацтва, суарганізатар Праваслаўнага выбарчага камітэта. Гэтую апошнюю структуру ствараюць, апрача Брацтва, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, бельскія ўкраінцы і арганізацыя „рускіх", якую стварыў нядаўна дацэнт Анатоль Адзяевіч родам з Орлі. Ёсць прапанова, каб Беларускі саюз быў таксама ўдзельнікам гэтага камітэта. Хаця ў сродках масавай інфармацыі паказалася ўжо інфармацыя, што ўсе гэтыя палітычныя фактары дружна аб'ядналіся, справа пакуль што да канца не вырашана. Пра ўсе змены будзем інфармаваць у наступных нумарах „Нівы".

**Я. М.**

# ДУХ НЕ ЗМЯНІЎСЯ

Не ведаю, ці гэты артыкул чытачам „Нівы" спадабаецца ці не, але думаю, што варта было яго напісаць. Мой сябра, Сцяпан Мрук з Тапаркоў купіў у мінулым годзе ў Маскве некалькі кніг, сярод іх і энцыклапедычны слоўнік (ужо не савецкі) на расейскай мове: „Словарь", выдадзены выдавецтвам „Энциклопедия-Москва" ў 1991 годзе. Пацікавіўся я некаторымі артыкуламі. Артыкул **Хрыстос** складаецца толькі з аднаго сказа, да таго ж з нейкай дозай іроніі; тое самае датычыць і **Апакаліпсіса Іаана Багаслова**. Гэтую тэму навукоўцы палічылі нейкай байкай. А вось артыкулу **Ленін** прысвечана цэлая старонка, уся ў пахвальным тоне — ніводнага адмоўнага слова. Таксама многа ў слоўніку і пра **Сталіна**, дзе дэталёва пералічана, якім ён быў дзеячам і якія пасты займаў у чырвонай іерархіі. Артыкул канчаецца такой вось фармулёўкай: „Допустил грубейшие полит. ошибки, имеющие тяжёлые последствия для сов. народа". Значыць, Сталін і яго памагатыя дапусціліся нейкіх памылак, усё астатняе было ў парадку; а памылак жа, вядома, кожны дапускаецца. Значыць, што ў чырвонай імперыі загінула 80 мільёнаў людзей толькі ў выніку „памылак" „добрага" Сталіна.

Чаму ж маскоўскія навукоўцы, аўтары згаданай энцыклапедыі, не напісалі, што гэта не былі памылкі Сталіна, а свядомыя злачынствы ўсёй чырвонай банды? Немцы таксама маглі сказаць, што Гітлер толькі „допустил грубейшие полит. ошибки", а ўсё астатняе было ў парадку. Гітлераўцаў аднак судзілі, а вось сталіністы суда пазбеглі, а эфекты гэтага адчуваюць на сваёй скуры народы, якія знайшліся пад чырвонай акупацыяй. Пра Паўліка Марозава самыя пахвалы: яны, Паўлікі Марозавы, верныя даносчыкі, былі і асталюцца патрэбнымі для нікчэмных бальшавіцкіх мэтаў. У артыкуле **Катынь** напісана, што з рук энкавэдыстаў загінула толькі 4 тысячы польскіх афіцэраў. А дзе рэшта — 10 тысяч? Напісана таксама, што падчас нямецкай акупацыі ў Катыні быў таксама лагер смерці, у якім гітлераўцы адпраўлялі на той свет палонных; мо акурат гэтых 10 тысяч польскіх афіцэраў? Гладка і хітра напісана; выходзіць, што бальшавікі не былі віноўнікамі амаль ніякіх злачынстваў. Прачытаў я яшчэ і пра апошняга цара Расеі **Мікалая II**: „Расстрелян вместе с семьёй в Екатеринбурге по постановлению Уральского обл. совета". А чаму не напісана, што цар, яго сям'я і прыслуга былі расстраляны „по постановлению" Леніна і Свярдлова? Уральскі „обл. совет" быў толькі выканаўцам ленінскага рашэння. Няпраўда напісана і пра патрыярха **Ціхана**, якога бальшавікі замучылі ў 1925 годзе. Артыкула **Курапаты** на старонках слоўніка і зусім няма.

Не змяніўся бальшавіцкі дух маскоўскіх навукоўцаў!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# Н.К. У "НІВУ" НЕ ВЕРНУЦЦА

☛ *Працяг са стар. 1*

Пакража ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве здарылася ноччу з 17 на 18 чэрвеня. 17 чэрвеня вечарам у тым жа будынку арганізаваўся выбарчы камітэт. Гутарка, між іншым, ішла пра выбарчую кампанію, пра яе фінансаванне. Праз некалькі гадзін у Таварыстве свіснулі камп'ютэры. Цяпер, калі давядзецца прафесійна выканаць такую дробную справу, як выбарчы плакат, то нельга будзе ўжо зрабіць гэта сваімі сродкамі, а трэба будзе пайсці да кагосьці, у ласку. Вось у гэтым і заключаецца ўся філасофія гэтых сімвалічных Няшчасных Камп'ютэраў — мелі мы шанц шмат у чым стаць самастойнымі. Жаль.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# РАДЖДЖАСТВО ПРАРОКА, ПРАДЦЕЧЫ І ХРЫСЦІЦЕЛЯ ІААНА

Яго нараджэнне прадвяшчалі ўжо ў Старым Запавеце прарокі Ісая („Глас вопиющего в пустыне: приготовьте путь Господу, прямыми сделайте в степи стези Богу нашему" — Ісая 40, 3) і Малахія („ Вот Я посылаю Ангела Моего, и он приготовит путь предо Мною" — Мал. 3, 1).

Іаан быў сынам свяшчэнніка Захарыя і Елізаветы, у якіх доўга не было дзяцей і якія пастаянна маліліся Богу, каб той саслаў ім наследніка. Аднойчы, калі Захарыя быў заняты каджэннем у іерусалімскім храме, з'явіўся яму Ангел Гасподні і паведаміў, што народзіцца ім сын, якога назавуць Іаанам. Узрадаваны Захарыя аднак не адразу паверыў пачутаму. „І сказаў Захарыя Ангелу: Па чым пазнаю я гэтае? То ж я стары, і жонка мая ў гадах пажылых. І сказаў яму Ангел у адказ: Я, Гаўрыіл, што перад Богам стаю, і пасланы гаварыць з табою і абвясціць табе гэтае. І вось, будзеш ты маўчаць, і не здолееш гаварыць да дня, калі гэтае станецца: за тое, што не паверыў словам маім, якія збудуцца ў свой час". (Лук. 1, 18-20). Прароцтва збылося. Захарыю мова вярнулася толькі тады, калі сыну было дадзена імя Іаан, якое напісаў ён на таблічцы. Святы Іаан Прадцеча нарадзіўся на шэсць месяцаў да нараджэння Ісуса Хрыста. З юнацтва прабываў ён на пустыні, дзе праводзіў час на постах і малітвах. Ягоная вопратка была з вярблюджай поўсці, а ежай былі яму саранча і мёд дзікіх пчол.



Сваю місію пачаў Ён у трыццацігадовым узросце і вёў яе пачаткова ў Іудзейскай пустыні, а потым у даліне ракі Іардан. Рыхтаваў Ён яўрэйскі народ да прыняцця доўгачаканага Збавіцеля. „І ён праходзіў па ўсіх ваколіцах Іарданскіх, прапаведваючы хрышчэнне пакаяння дзеля адпушчэння грахоў" (Лук. 3, 3), гаворачы пры гэтым: „Я хрышчу вас вадою, але ідзе Дужэйшы за мяне, у каторага я не варты развязаць рамень абуцця; Ён будзе хрысціць вас Духам Святым і агнём" (Лук. 3, 16).

Царква праслаўляе Яго як анёла, апостала, мучаніка і самага вялікага з пракакаў, аб якім сам Хрыстос так сказаў: „Бо кажу вам: з роджаных жанчынамі няма ніводнага прарока, большага за Іаана Хрысціцеля..." (Лук. 7, 28).

Названне Святога Іаана Прадцечам абазначае, што Ён — Папярэднік Хрыстовы, той, хто з'явіўся да прыходу Збавіцеля, ішоў перад ім і рыхтаваў народ да прыняцця Хрыста.

На іконах выява Святога Іаана Хрысціцеля часта мае крылы, бо Яго называлі яшчэ Анёлам Пустыні, а гэта таму, што сваім жыццём і місіяй, менавіта прапаведваннем прыходу Месіі, стаў падобным да анёлаў.

Дзень Нараджэння Св. Іаана Хрысціцеля ушаноўваем 7 ліпеня (24 чэрвеня паводле старога стылю). Здаўна ў народзе бытуе звычай не купацца да гэтага дня ў рэках, азёрах і іншых вадаёмах.

**С. Н.**

# ВЫСАКАРОДНЫ СОТНІК

У 4-ю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы прыпадае адчытаць урывак з 8 раздзела Евангелля паводле Мацвея. У ім гаворыцца пра аздараўленне слугі рымскага сотніка. У рымлянаў слугі звычайна былі нявольнікамі. Іх прадавалі і куплялі на рынках, а ўласнікі ставіліся да іх жорстка. Сотнік, гэты быў іншы. Ён любіў свайго слугу і шчыра жадаў ягонага аздараўлення. Не зважаючы на яўрэйскі фармалізм, ён быў перакананы ў вышэйшасці рэлігіі зняволенага народа над сваёй уласнай. Усведамляючы сваю нягоднасць, ён пакорна папрасіў у Хрыста дапамогі, пры тым не для сябе, а для слугі. Дабрыня чалавека, ад якога можна было б спадзявацца зусім іншага, узрушыла Ісуса. Ён прыкмеціў у чужаземца веру і міласэрнасць, якія рэдка бачыў у сваім народзе і таму заявіў прысутным: „Многія прыйдуць з Усходу і Захаду і засядуць за стол з Аўраамам, Ісаакам і Якавам, ... а сыны Царства будуць укіненыя ў цемру вонкавую; там будзе плач і скрыгат зубоў" (М. 8, 11-12).

Дабрыня і спагада маюць боскі радавод. Гэта процілеглае нашым звярыным інстынктам, эгаізму і жорсткасці, з якімі змагаемся за быт. Часам чулася пра „сацыялістычную" ці нейкую іншую мараль, аднак Дастаеўскі слушна сказаў: „Калі няма Бога — тады ўсё дазволена". Толькі вера ў Бога робіць нас больш высакароднымі. Без яе не было б ідэалу, не было б прыкладу, не было б маралі...

У сувязі з гэтым прыгадаем маральны доказ на існаванне Бога, калі доказы наогул маюць нейкі сэнс. Такім чынам, маральны доказ ёсць практычным і тэарэтычным. Практычны — падкрэслівае факт, што вера ў Бога спрыяе павышэнню маралі, падчас калі бязбожніцтва здымае маральныя тармазы. Добрасумленныя атэісты, калі такія трапляюцца, бачачы разбэшчанасць, злачыннасць, аборты і гэтаму падобнае, прызнаюць: „Калі нават Бога няма, яго трэба было б прыдумаць". Вальтэр, які быў перакананым бязбожнікам, тым не менш вучыў сваю дачку катэхізму. Калі яго папракнулі ў гэтым аднадумцы, ён сказаў: „Раблю гэтае, каб у будучыні была яна добрай жонкай і маткай".

Патоку злачыннасці, напэўна не спыняць турмы. Вядома, што пераважна яны псуюць яшчэ горш, а маралізатарства ў газетах, тэлебачанні і кніжках адбіваецца як гарох аб сцяну. У XVII стагоддзі, калі атэізм быў з'явай даволі рэдкай, да рабіна прыйшоў адзін яўрэй і заявіў: „Я не веру ў Бога". Рабін абняў яго і кажа: „Як я зайздрошчу Табе, сябра! Ты ў шмат лепшым становішчы, чымсьці я. Калі бачу пакуты нейкага чалавека, думаю: Бог яму паможа і сам не памагаю. Ты аднак не верыш у існаванне Бога, дык сам рабі тое, што рабіў бы Бог. Дык і рабі: кармі галодных, суцяшай пакрыўджаных, нясі праўду і радасць тым, хто іх патрабуе; наогул паступай гэтак, як паступаў бы Бог, калі б, зразумела, існаваў. А потым, праз год прыйдзі да мяне і скажы, ці Бог ёсць, ці няма Яго" — спакойна сказаў рабін.

Існуе таксама тэарэтычны, гэтак званы навукова-філасофскі, маральны доказ на існаванне Бога. Паколькі ёсць маральны закон, які дзейнічае часта насуперак нашай волі, мусіць быць і ягоны заснавальнік. Голасу сумлення ў душы часам нельга нічым заглушыць. Можам быць упэўненымі, што ніхто не бачыць і не даведаецца, аднак нешта паўстрымоўвае, напрыклад ад крадзяжу. Маючы свабоду дзеяння, чалавек адчувае аднак задавальненне ад свядомасці добра выкананага абавязку. Інакш кажучы, свабода волі не дапускае да самаволі з дапамогай маральнага закону, які пахваляе або ганіць дзеянні чалавека. Маючы свабодную волю, ведаючы, што некаторыя дрэнныя паступкі даюць несумненную карысць або былі б прыемнымі, чалавек усё роўна, насуперак сваёй выгадзе, адчувае над сабою загадную сілу закону. Зразумела, што гэтага закону не прыдумаў у сваю некарысць сам чалавек, гэтак як і конь добраахвотна не надзеў бы сабе вуздэчку...

Такі вось маральны доказ існавання Бога, які асацыюецца з тэмай Евангелля пра чалавека, які будучы паганінам, не быў горшы за верніка, бо меў Бога ў сэрцы.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## НАШЫ КАРАНІ

### LIV. ВЫДАТНЫ СВЯЦІЦЕЛЬ

Знакамітым беларускім царкоўным дзеячом, які ў часы вялікай княгіні Галены вылучыўся на духоўнай і грамадскай ніве, быў Іосіф Солтан. Паходзіў ён са старажытнага беларускага баярскага роду, прадстаўнікі якога ў розныя эпохі рассяляліся па беларускіх землях, займалі важныя дзяржаўныя пасады і адыгрывалі важную ролю ў духовым, культурным і палітычным жыцці Беларусі. Дарэчы, іхнія нашчадкі і сёння актыўныя ў беларускай і польскай культуры.

Іосіф Солтан быў адным з чатырох сыноў Аляксандра Солтана, чалавека глыбока веруючага і адукаванага, намесніка наваградскага і слонімскага, маршалка каралеўскага ў апошнія дзесяцігоддзі панавання караля і вялікага князя Казіміра Ягелончыка. Гэта ён, між іншым, у 1471 і 1488 гадах заказаў у перапісчыкаў „Талковы псалтыр" і „Мінею служэбную".

Як сведчаць розныя дакументы, Іосіф вучыўся ў школе Свята-Троіцкага манастыра ў Слуцку, там прыняў манаскі пострыг, служыў іераманахам у гэтай абіцелі, а потым стаў яе ігуменам. Вылучаўся ён духовай пранікнёнасцю, багаслоўскай і свецкай адукаванасцю, выдатнымі арганізатарскімі здольнасцямі і настойлівасцю ў сваёй дзейнасці. Гэтыя якасці, відаць, прывялі яго да хіратоніі ў епіскапа. Яму была даручана смаленская кафедра; ужо ў 1480 г. ён пасвячае Жыровіцкі манастыр у мітры ўладыкі смаленскага.

Падчас вайны Беларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) з Маскоўскім княствам уладыка Іосіф Солтан паводзіў сябе як самаахвярны патрыёт, абаронца беларускіх зямель ад чужаземнага захопніка. У той жа час быў ён непахісным абаронцам праваслаўя і рашучым праціўнікам уніі.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык пісаў так: „*Поразумелнесмо верную и справедливую службу наречоного Владыки Смоленского Іосифа, которогю ж ся он к нам оказал напротив неприятеля нашего и, служачи нам верне, впад и шкоду немалую мел; и мы з ласки нашее за то пожаловалнесмо его — дали ему люди у Бельском повете, у Суражской волости...*" Надарыў кароль гэтым лістом ад 15 верасня 1504 г. уладыку Іосіфа Солтана абшырнай і заможнай маёмасцю „людьми и землями" Тапілец, Бацюты, Пішчава, Касцюкі, Зачарляны, Завады, Гаёўнікі і „дварцом" Уладычычы — усё гэта сёння складае значную частку тэрыторыі гмінаў Харошча і Турасьнь. Але як шчыры, сапраўдны праваслаўны пастыр, уладыка Іосіф ахвяраваў на вечныя часы вялікае наданне гэтае Супрасльскаму манастыру. У даравальнай грамаце ад 11 мая 1506 г. ён, між іншым, пісаў: „...*як же есть обычай живущим в вере христианской подобает больше всего печоловатися о душевном спасении, а наболе ныне мне мешкаючи у службы господарской часу неспокойного от неприятеля господарского, боючися пригоды упаду смертного, и для того хотя мети память вечную по своей души у церкви Божией Пречистыя Благовещения, еже есть ускрай рэкы Супраслы, у отчизне благородного и вельможного пана Александра Ивановича Ходкевича... мое властное имение придаю... к церкви Божией Пречистыя Благовещению, служителю нынешнему игумену Пахнотью и всим еже о Христе братии, живущим в том манастыри нынешнем и на потом будучим, церкви Божией ку чти и хвале...*" Апрача гэтага шчодрага дару, уладыка смаленскі ў розныя часы ахвяраваў Супрасльскаму манастыру: у 1503 годзе дакладную копію славутай смаленскай іконы Маці Божай, якая славілася цудамі і была ў вялікай пашане ва ўсёй Усходняй Славяншчыне, а таксама, як падае супрасльскі архімандрыт Сяргей Кімбар у сваім „Рэістрыку" ад 1557 г., ад Іосіфа Солтана манастыр атрымаў два крыжы сярэбраныя з пазалотаю, дзве чашы сярэбраныя пазалочаныя, сярэбранае кадзіла і іншае літургічнае начынне, да таго „Псалтыр" „окованую позолотитыми пуклями".

Пасля смерці ў 1507 г. мітрапаліта Іоны, кароль і вялікі князь Зыгмунт Стары пры актыўных захадах княгіні-ўдавы Галены Іванаўны, а таксама вядучых праваслаўных дзяржаўных дзеячоў і духавенства вылучыў уладыку Іосіфа ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Праваслаўны Памесны сабор пацвердзіў яго кандыдатуру і праз два гады ён атрымаў блаславенне ад патрыярха канстанцінопальскага. Мітрапаліт Іосіф II (такое лічбавае адрозненне атрымаў гэты архіпастыр у гісторыі) адразу прыступіў да актыўнага і плённага дзеяння дзеля ўзвышэння рангу праваслаўнае Царквы ў дзяржаве. Для ўпарадкавання і ўмацавання ўнутрыцаркоўнага жыцця ён склікаў на пераломе 1509-1510 гадоў у Вільню ўсеагульны Памесны духоўны сабор. На ім было прынята шэраг вельмі істотных пастановаў па справах павышэння маральнага і духовага аблічча духавенства, выказаны рашучы супраціў свецкім уладам на іх умяшанне ва ўнутранае жыццё Царквы, між іншым, у справе назначэння святароў і епіскапаў, шэраг іншых важных для царкоўнага жыцця рашэнняў. Мітрапаліт заахвоціў усё праваслаўнае духавенства да актыўнага ўдзелу ў духовым і грамадскім жыцці краіны, адважна і настойліва абараняць кананічныя і матэрыяльныя правы Царквы. Ён пры падтрымцы вялікага гетмана літоўскага, праваслаўнага князя Канстанціна Астрожскага дабіўся ў караля Зыгмунта Старога пацвярджэння ўсіх раней дадзеных папярэднімі каралямі і вялікімі князямі праваслаўнай Царкве, яе духавенству і Веруючым праваў і прывілеяў. Гэты фундаментальнага значэння акт кароль закончыў наказам: „*Не чинить кривды митрополиту Киевскому и епископам и в церковные доходы и во все справы и суды духовные не вступаться*". Пры ўладыку Іосіфе II кароль назаўсёды скасаваў ранейшую забарону рамантаваць старыя і будаваць новыя цэрквы. Варта дадаць, што каралева Бона, жонка Зыгмунта Старога, увяла ў сваіх уладаннях такі звычай: фундуючы якому-небудзь гораду каталіцкі касцёл, адначасова фундавала праваслаўную царкву, тым самым падкрэслівала раўнапраўе абодвух веравызнанняў.

Мітрапаліт Іосіф II шмат клапаціўся і пра развіццё духоўнай праваслаўнай культуры. Па яго загаду і фінансавай падтрымцы быў заснаваны мітраполічы скрыпторый, у якім некалькімі перапісчыкамі складаўся і перапісваўся „Беларускі пралог 1512 года", па ініцыятыве ўладыкі паўсталі: „Супрасльскі зборнік 1507 года", „Супрасльскае пяцікніжжа 1513 года" і іншыя, вельмі каштоўныя для дзейнасці Царквы, кнігі. Называюцца яны „супрасльскімі" таму, што былі знойдзены ў Супрасльскім манастыры. Мабыць, уладыка Іосіф II запрасіў і дапамог славутаму беларускаму першадрукару Георгію Ф. Скарыне пераехаць з чэшскай Прагі ў Вільню і заснаваць тут друкарню. Дзякуючы стараннем мітрапаліта на беларускіх землях, у тым ліку і на Падляшшы, паўстала шэраг новых цэркваў і то мураваных, бо дагэтуль мураваць цэрквы забаранялася, пачалі працаваць іканапісныя і іншыя майстэрні.

Варта дадаць, што мітрапаліт Іосіф II ахвотна наведваў землі сённяшняе Беласточчыны. У кастрычніку 1510 г. ён чарговы раз прыбыў у Супрасльскі манастыр, пасвяціў новапабудаваную славутую Благавешчанскую царкву і даў устаў (статут) Супрасльскаму манастыру. Памёр у глыбокай старасці ў 1521 г. Як піша архіепіскап Афанасій, гісторык Беларускае Праваслаўнае Царквы, ён „*пакінуў пасля сябе памяць як пра выдатнага свяцілеля праваслаўнае Царквы ў Вялікім княстве Літоўскім*".

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 402





*Бэата Капій — народжаная 31 мая 1970 года ў Глубчыцах (Апольскае ваяводства). Пастаянна жыве ў вёсачцы Краснэ Поле, пры самай граніцы з Чэхіяй. Студэнтка чацвертага курса славянскай філалогіі Каталіцкага універсітэта ў Любліне. Друкуецца ўпершыню.*

(яч)

*БЭАТА КАПІЙ*

* * *

ціха і непрыкметна
падышла
да майго ложка

заплюшчыла вочы
заспявала калыханку
пацалавалася з кветкамі
на доўгае развітанне

і гоман часоў
як чалавечы крык
дзесьці ў душы маёй

а можа гэта толькі
верабей
заспяваў
каб развесяліцца

і смутак прывяў
сваім шчабятаннем

сум за свабодаю
і радасць свабоды

і жаль вялікі
што
ты не птушка

* * *

Калі засвеціць сонца
і смутак
такі пяшчотны
і разнацветны
загляне
да вакна тваёй душы

Праменні
будуць ярка асвятляць
унутрану жуду
і жаль
такі вялікі
да кагосьці
а можа
да нікога

І сэрца
вырвецца
выскачыць
ад болю
які
пераходжаецца
па сенажаці
поўнай
загубленых думак
і сноў аплаканых
і мараў

якія ніколі
не здзейсняцца

* * *

маленькі арэшак
у маёй далоні
як сіла магутная
што перамагае
ўсё нядобрае

ад цябе
атрымала я
калі слоў
не хапала
каб выявіць
сэрца балючае
  думку цяжкую
  крык душы

маленькі арэшак
як свет цэлы
у маёй
сціскаю
руцэ

* * *

мінулае вяртаецца як бумеранг

калі не хачу
калі не думаю

вяртаецца

хаця не звяртаю маёй увагі
на Нарач-возера
на віленскія марожаныя
на падарожжа далёкае
дзе я побач цябе
а мая рука
у тваёй руцэ

і ўсмешка чароўная
у люстэрку
дзе я прыпадкова
накіравала свой позірк

і шампанскае
з п'яна-далікатным пахам

мінаюць дні
  новыя людзі
    новыя месцы
      новыя перажыванні

дарма

мінулае ўсё-такі вяртаецца
як бумеранг

* * *

у віры жыцця
у модным свеце
дзе людзей мільёны
дзе штодзённа
сустракаеш чалавека

ты самотны
як
месяц на небе

людзі мінаюць цябе
але твае клопаты
не турбуюць іх
і твае слёзы
як дыяменты
для іх толькі
мяккасць душы
непатрэбная

і ты з кожным днём
усё больш як нябыт

*АЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ*

## ЛЮБЛЮ ДА БОЛЮ...

Люблю да болю зелень маладую,
Ірдзенне жоўтых зорак у траве.
Ступнямі босымі з зямлі ўбіраю сілу,
Хай жыццядайным трункам бурліць
        у галаве.

Як кожнаю вясной, няведамая сіла
Мяне прагнала з гарадскіх палат,
Каб тут, у бацькаўскіх палетках,
        душою адпачыла
І зразумела, што да шчасця
        трэба так няшмат.

Вось верабей спусціўся з неба,
Чырыканнем вясёлым вітаецца са мною,
У адказ частую яго крышкай хлеба,
Старыя яблыні паю сцюдзёнаю вадою.

Сусед стары, бацькоў маіх равеснік,
Увайшоў у двор, у вокны заглядае;
— Ізноў прыехала, вось добра! —
І пра жыццё ў горадзе пытае.

Няма ўжо бацькоў, але з пашанай
Стараюся захоўваць іх сляды.
Здаецца мне, што, дзесь з-за свету
        нават,
Яны ўсцерагуць нас ад бяды.

Люблю да болю зелень маладую,
Ірдзенне жоўтых зорак у траве,
Вясну на бацькаўшчыне ўсім
        сэрцам чую,
Здаецца — маладосць шуміць зноў
        у галаве.

*Травень' 93*

*ІОСІФ БРОДСКІ*

## ЛІТОЎСКІ ДЫВЕРТЫСМЕНТ

*Томасу Венцлова*

### I. ПРАЛОГ

Вось каля мора сціплая краіна.
Свой снег, аэрапорт і тэлефоны.
Свае жыды. І шэры асабняк
дыктатара. І постаць вешчуна,
Айчыну параўнаўшага з каханкай,

Па чым відаць не так адменны густ,
як веды з геаграфіі. Паўднёўцы
тут па суботах ездзяць да паўночных
і, брыдучы дахат назад пад мухай,
часамі могуць заблукаць на Захад —
тэма для скетча. Тут адлегласці такія,
што жыць маглі бы хоць гермафрадыты.

Высновы поўдзень. Лужыны, аблокі.
Нязлічаных анёлаў тлум на стрэхах
нязлічаных касцёлаў — чалавек
тут робіцца ахвярай таўкатні
альбо фігураю мясцовага барока.

### II. ЛЕЙКІЛОС, ВУЛІЦА Ў ВІЛЬНІ

Тут нарадзіцца ў час няшпаркі,
дзе ў дворыках вісяць пярыны,
глядзець з-пад стрэхі, бачыць паркі,
крыжы двухтварай Кацярыны,
цурацца маці, чырвань боўтаць,
калі ў ларнеткі глянуць пані,
завулкам гета, вузкім, жоўтым,
піхаць двухколку з лахманамі,
накрыцца з галавою ў мроях
пра полек з дужымі грашыма,
пасля на фронт пайсці героем
і згніць на Віслe — за Айчыну,
Цара і Веру! Альбо пейсы
сабе паабстрыгаўшы рана,
у Новы Свет адплыць – і рэйсам
рыгаць у хвалі Акіяна...

### III. КАВЯРНЯ „НЯРЫНГА"

Час адыходзіць за дзверы кавярні
        ў Вільні
пад спадарожны лязгат відэльцаў,
        нажоў і талерак —
і прастора, хоць на падпітку,
        але неамыльна
глядзіць на мяне між патыліцай
        і каўнерам.

Над дахоўкамі стрэхаў — нерухомы
        пунсовы круг,
як згубіўшы нутро ці пустое ўлонне.
І кадык завостраны, як вырваны з чужых
        рук,
а на месцы твару толькі профіль — як
        на медальёне.

І жадання-прагі-капрызу пачуўшы гук,
падавальніца ў кофтачцы з дарагога
        батыста
перабірае нагамі, толькі што знятымі
        з рук
мясцовага футбаліста.

### IV. ГЕРБ

Забіўшы цмока, Святы Юры
імчыць без дзіды скрозь віхуры
ад алегорый — толькі меч
і конь пры ім. З іх дапамогай
пачвару чорную дарогай
з мяжы літоўскай гоніць прэч.

Каго ж, меч сціснуўшы ў далоні,
пасекчы прагне?! Сэнс Пагоні
за тарчай пыл дарожны скрыў.
Каго?! Гяура? Злыдняў племя?
Сусвет?.. Ну, калі так, не ў цемя
вялікі Вітаўт біты быў!

### V. „СЯБРУ-ФІЛОСАФУ ПРА МАНІЮ, МЕЛАНХОЛІЮ І ПОЛЬСКІ КАЎТУН" АЛЬБО ТРАКТАТ XVIII СТ. З ВІЛЕНСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Бяссонніца. Жанчыны частка. Шкло
рэптылій слізкіх, што паўзуць на сцюжу.
Шаленства дня праз мозг мой працякло
ў патыліцу і там зрабіла лужу.
Ледзь варухніся — боль зальe нутро.
Як быццам нехта ў ледзяную жыжу
макае сваё вострае пяро
і па складах выводзіць „не-на-ві-джу!"
па пропісу, дзе толькі след крывы
закругліны і дзе жанчына ў крэмах,
як пальцы да вашывай галавы,
пускае ў вушы словы вечнай тэмы...

І ў поцемках ты голы і адзін.
Як Задыяка знак сярод ільдзін.

### VI. ПАЛАНГЕН

Толькі мора на Неба глядзіць. Толькі
        мору не страшна.
Чалавек з белай дзюны на свет пазірае,
адкідвае галаву і пацягвае з пляшкі —
як былы кароль, які даў сябе выгнаць
        з Краю.

Дом зрабаваны. Атары і статкі пабралі.
Сына хавае пастух у цемрах пячоры.
А перад ім — толькі край зямлі і салёныя
        хвалі.
Але веры замала, каб перайсці гэта мора.

### VII. „ДАМІНІНКОНАЙ", КАСЦЁЛ У ВІЛЬНІ

Пакінь смурод і грукат месца —
завулкам ціхім час ступаць
між дворыкаў, глухіх і цесных,
зайдзі ў касцёл, на лаўку сядзь
і там, ад пылу залатога,
калі падступіць горлам плач,
ўдыхні святло ад Пана Бога
І ціха выдыхні: — Прабач.

*1971 год.*

**Пераклаў АЛЕСЬ ЧОБАТ,
1993—04—18.**

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## ШЧАСЦЕ ВУСАТАЙ

Мужчынаватая Манька, празываная Вусатаю, на дзіва мела хабеля. Прыбіўся да яе, ваеннай удавы, калеснік з-пад Бераста-віцы, які ўцёк ад „калхозаў" сюды, пад Польшчу. Спачатку ён трохі быў хаваў-ся на вышках у хляве, баючыся, што возьмуць і прыдуць па яго ўночы савецкія пагранічнікі з блізкай адсюль заставы, пакуль не ўсталявалася польская служба за стадоламі ад Кабыліных гораў.

Гэтага вашая яна вылюдзіла на чалавека, абшыла і абула. Ён, можа, усё роўна пыльнуў бы ад яе на Прусы, каб не тыя чуткі, што Амерыка з Англіяй прыбіраюцца даканаць і Сталіна. Начэкваючы свабоды, калеснік потайкам падзарабляў, калі ў каго рассохся воз. І малацьбіт з яго выдаўся неблагі; да відна, бывала, паўкапы абходае (снедаў ды абедаў спехам, усё пазіраючы чуйна ў вокны).

Наўцякала больш такіх, ажно бальшавікі з'аралі граніцу ды загарадзілі калючым дротам, а яшчэ панаставілі ў травах і ў маладняках самапальных ракетніцаў (напорвалася на іх звяр'ё). Тады Вусатай хоць адзін раз спадабалася савецкая ўлада, за што хабель абазваў яе камісарам у спадніцы... Яна, перадумаўшы ўсё як след, хітра спаліла хату і ўзяла за яе страхоўку, за якую купіла нават новую. Гэтакі шанц папаўся ёй у валачашчых рэпатрыянтаў ад Гародні, што, папісаўшыся там палякамі і дастаўшы тут скарбовыя гаспадаркі, распрадаваліся і бегма пераязджалі на землі, што адыйшлі ад Нямеччыны.

Хабель аціх і працаваў ад рання да змяркання. А неяк у зазімак паехаў ён у лес па дровы і столькі яго пабачылі; конь вярнуўся сам, валакучы паламаныя аглоблі. Казалі лесуны, што якісьці мужык павесіўся на Шырокай трыбе за Сасновікам, але гэта была няпраўда (толькі фуру сваю, з мэтрамі пакінутую, упаткала ў тым баку Манька з людзьмі). Як ні шукалі, не знайшлі чалавека: прапаў, бы ў багну кануўшы! Пасля ўжо перагаворвалі — нехта са спекулянтаў пазнаў яе хабеля, як той ішоў з чысценькай немкаю ў эшалон, што адпраўлялі з гданскага вакзала кудысьці за Одру...

Манька Вусатая нарадзіла ад яго дачку, якую выгадавала на порсткую паненку і шчасліва аддала яе замуж за мясніка ў Саколцы.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ТАКАЯ ДАПАМОГА ЦЕШЫЦЬ

У Падставовай школе ў Курашаве навучаецца 64 дзяцей, разам з прадшкольным аддзяленнем. Ходзяць сюды вучні з Курашава, Вулькі і Каменя. Беларускую мову вывучае 38 дзяцей. У бягучым школьным годзе курашаўскія вучні ездзілі на экскурсіі ў Варшаву, Беласток і Супрасль. Вельмі ахвотна расказваюць пра сваю пабыўку ў Рыбаках, што над ракой Нарвай. Тут купаліся, плавалі на байдарках. У дзяцей самыя лепшыя ўспаміны са святкавання сёлетняга Дня дзіцяці. У гэты дзень ездзілі яны ў Падставовую школу ў Новым Корніне. Удзельнічалі ў шматлікіх конкурсах і спартыўных розыгрышах.

Зараз, падчас летніх канікулаў, дзеці адпачываюць. Яны намераны паехаць на бівак у Падрэчаны. Тут лес і рэчка. Вучні старэйшых класаў (V-VIII) будуць самі сабе рыхтаваць абеды, забаўляцца ў розныя гульні і спаць пад палаткамі.

Варта адзначыць вялікую дапамогу школе бацькоў вучняў і войта гміны. У школе перабудавалі печкі і памалявалі падлогі. Фарбу купілі бацькі. Яны таксама паклапаціліся пра апал - сваім транспартам вазілі дровы і вугаль. Войт Рыгор Мацкевіч купіў каляровы тэлевізар і відэакасеты. Яшчэ школа атрымае фарбу. Будуць памаляваны ўсе класныя залы і іншыя памяшканні.

Вельмі цешыць дапамога прадшкольнаму аддзяленню. Праўленне гміны купіла дыван і заслоны на вокны. Ды гэта яшчэ не ўсё. Малечы атрымалі дапаможнікі да навукі чытання. Войт не адмовіць падаслаць у Курашава школьны аўтобус з Чыжоў, калі толькі ёсць такая патрэба, напрыклад, калі лекары праводзяць прывіўку воспы, або на іншыя запланаваныя паездкі.

**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**



*Міру Лукшу і Віктара Шведа з літаратурнага аб'яднання "Белавежа", якія пішуць вершы для Вас, сфатаграфаваў, спецыяльна для "Зоркі", Янка Целушэцкі.*

## ЛЯНІВЫ ЗАЙЧЫК

**Казка**

Зайчыха рыхтавалася да зімы — хату будавала. Дапамагалі ёй зайчаняты: дошкі цягалі, мох дралі.

— А ты чаму схаваўся? — спытала зайчыха самага маленькага зайчыка.

— Я хачу гуляць!

— З кім жа ты будзеш гуляць? Усе працуюць.

— Знайду з кім! — адказаў зайчык і пабег з дому.

Неўзабаве ён убачыў вавёрку, якая трымала ў лапках грыбок.

— Пагуляй са мной! — папрасіў зайчык.

— Няма ў мяне часу гуляць, — пакрыўдзілася вавёрка. — Трэба грыбы на зіму сушыць.

Пабег зайчык далей.

Недалёка ад рэчкі, у асінніку, сустрэў бабра з бабранятамі.

— Што вы тут робіце? — спытаў зайчык.

— Кару, асінавыя галінкі нарыхтоўваем. Каб зімой не галадаць.

— А мне сумна! Давайце пагуляем трошкі.

— Не мяшай працаваць! — засердаваў бабёр. — У нашай сям'і няма гультаёў.

Пабег зайчык далей.

Бачыць, дзяцел сядзіць на сухастоіне — дупло выдзёўбвае.

— Добрая птушка, пагуляй са мной! — папрасіў зайчык.

— Не магу, шарачок! Палац яшчэ не гатовы, а зіма не за гарамі.

Доўга бегаў зайчык па лесе. Стаміўся, прагаладаўся. Пад самы вечар зваліўся ў воўчую яму. А воўк тут як тут, зубамі шчоўкае:

— Я даўно цябе, гультая, шукаю!

Прапаў бы зайчык, каб не паляўнічыя. Забрахалі недалёка сабакі, воўк спалохаўся і — наўцёкі.

Ледзьве жывы вярнуўся зайчык дамоў. Усю ноч спаў як забіты. А раніцай першы выбег на работу.

— Пабудуем хату, — сказаў ён зайчанятам, — тады і гуляць будзем!

**ЗОЯ ЛАБАНОЎСКАЯ**

*МІРА ЛУКША*

### АВЕЧКА БЭЛЯ

Авечка Бэля
У сукенцы белай,
Ў ружавым вяночку
Ідзе па садочку.
Сёння Бэля - дружка
Маладое панны,
Дружка-весялушка
Муркі закаханай.
Авечка Бэля
У сукенцы белай
Мурцы памагае,
Вэлюм прышпіляе.
Авечка Бэля
Рада на вяселлі:
Ўсе хлопцы, паненкі
Глядзяць на сукенку.
Хоць вясёлай Бэля -
Не яе ж вяселле...
Не прыйшоў Абрамчык,
Кавалер-баранчык...
Сёння Бэля - дружка
Маладое панны,
Дружка-весялушка
Муркі закаханай.

### СЯБРЫ

Жылі два сябры
У зялёным двары:
Коцік-Варкоцік
І Цюцік-Варкуцік.

Не шкадавалі
Адзін аднаму
Ні будкі, ні косткі,
Разам гулялі,
Хадзілі ў нагу
З канца ў канец вёскі.

Сказаў адзін Гаў,
Дарослы кусака,
Суседскаму Мяў,
З кім жыў, як сабака:

- Хто бачыў, каб так,
Нязгодна з натурай - гаў -
Паводзіць сябе - гаў -
Катоў і сабак?!

А Мяў адказаў,
Наморшчыўшы нос:
- Не бойся, мяў-мяў,
І іх такі ж лёс!

І ўбачым мы разам - мяў -
Як згодна з натурай - мяў -
Пагрызуцца з Варкутам Варкот,
Як дарослы з сабакам кот!

А вы, сябры,
Скажыце мне:
Ці будзе так, ці не?..
... А у двары
Пакуль вясна
Шчаслівае пары...

Ноччу непадалёку ад вёскі, у якой жыў Пецька, партызаны знішчылі грузавік з фашыстамі. Раніцай карнікі сагналі да царквы ўсіх жыхароў. Хударлявы і злосны эсэсавец аб'явіў:

- За смерць салдат фюрэра вас усіх трэба расстраляць. Але мы расстраляем толькі тых, хто не можа працаваць...

Карнікі пачалі выштурхоўваць з натоўпу старых людзей.

Раптам эсэсавец падышоў да Пецькі, спытаў:

- Колькі класаў скончыў?

- Адзін, - ціха адказаў хлопчык.

- Рашы задачку, - крыва ўсміхнуўся афіцэр у чорным мундзіры. - Ноччу партызаны забілі дзесяць нашых салдат. За кожнага з іх мы расстраляем па два жыхары вашай вёскі. Палічы: колькі чалавек стаіць ля сцяны і колькі яшчэ трэба?

Пецька спалохана зірнуў на аднавяскоўцаў ля сцяны. Не хапала аднаго.

- Не ведаеш? А мо не хочаш мне дапамагчы? - закрычаў эсэсавец. І так тыцнуў наганам у Пецькаў падбародак, што пацякла кроў.

Хлопчык заплакаў, а ў карніка чырванню наліўся твар.

- Не плач, сынок. Яны за ўсё расплацяцца, - сказаў дзед Лука і сам выйшаў з натоўпу.

- З гэтага старога і пачніце расстрэл, - загадаў эсэсавец і павярнуўся да Пецькі. - А цябе, шчаня, у вялікай Германіі навучым рашаць задачы!..

Так Пецька трапіў у фашысцкую няволю. Падмятаў смецце на фабрыцы, склейваў каробкі, сартаваў скураныя абрэзкі. А калі нашы саюзнікі пачалі бамбіць германскі горад, Пецька і ўсіх нявольнікаў прымушалі разбіраць завалы. Сярод іх трапіліся і цацкі.

Пецька збіраў у сваю торбу толькі цацачныя наганы. Марыў: "Вярнуся дамоў - арганізую партызанскі атрад".

У торбе, праўда, была яшчэ адна цац-



АНАТОЛЬ ДАВЫДАЎ

## БУСЛІК

ка - гліняны буслік. Вельмі ж падобны на таго, які жыў некалі на даху іхняй хаты. Пецька любіў размаўляць з буслікам: "Не сумуй, мая птушачка, хутка нас вызваляць, і я завязу цябе дамоў".

Аднойчы, пры чарговай бамбардзіроўцы, былі разбураны баракі, дзе жылі нявольнікі з Беларусі і Украіны. Жандар, які ахоўваў іх, зняў узмакрэлую пілотку, абвёў разгубленым позіркам жанчын з дзецьмі, уздыхнуў. Зразумеў: скончылася яго служба.

- Разыходзьцеся, - даў ён апошні загад і пайшоў у бок чыгуначнай станцыі.

Нявольнікі рушылі на ўсход. Там была іх радзіма. Ішлі доўга. Начавалі ў полі. Голад і стома з кожным днём усё болей мучылі людзей.

"Чаму так цяжка ісці? - думаў Пецька. - Мо цацкі цяжкія? Навошта я нясу тыя наганы? Хіба захочуць хлопцы гуляць у вайну, калі не будзе вайны? Будуць, напэўна, вудзіць рыбу, чытаць кніжкі... Каму патрэбна гэта зброя?"

Пецька пакінуў на дарозе сваю торбу з цацкамі. У руках застаўся буслік. Ісці стала лягчэй.

На гарызонце паказаўся нейкі гарадок, і нявольнікі ўздыхнулі - будзе адпачынак. Але іх не пусцілі ў горад. А ў Пецькі ўжо сіл нетавала ісці далей. Жанчыны падпялі хлопчыка на рукі.

- Перагрэўся на сонцы, - бедавала баба Сяклета.

На прывале Пецька пачуў, як знямоглыя жанчыны казалі: "Не данясём хлопчыка. Вельмі цяжкі".

Пецька зірнуў на бусліка, якога моцна трымаў у руках, прашаптаў яму:

- Не магу цябе несці, буслік, сіл няма. Ляці дамоў сам...

Хлопчык ціха заплакаў.

Калона нявольнікаў рушыла далей. На зраненай зямлі, узаранай бомбамі, стоптанай кованымі ботамі, застаўся стаяць даўганогі гліняны буслік. Ён сумна пазіраў услед стомленаму Пецьку, які вяртаўся на радзіму.

*МАР'ЯН ДУКСА*

### КАНІКУЛЫ

Канікулы, канікулы -
цудоўная пара!
У лета зноў паклікала
світальная зара.
Куды ні кінеш вокам ты,
усюды радасць ёсць.
Займае дух - навокала
якая прыгажосць!
Як зззяннем пазалочана
у небе сіне ва!
Як шэпча на абочыне
шаўковая трава!
Дыхне вадою блізкаю.
Праз вольхі, лазнякі,
о, як прызыўна бліскае
люстраны плёс ракі!
А ў ёй хмурынкі яхтамі
плывуць -
па дне няўжо?
Як пахнуць з лесу ягады,
пачырванеўшы ўжо!
Да дня пасцель мурожная
калыша хлапчукоў.
І сняцца, пэўна, кожнаму
кашы баравікоў.
Які ж усё-ткі ядраны,
але прыемны смак
у самых першых яблыкаў,
якіх багата так.
Рука вось-вось залускае
арэхі - лесу дар.
Як падужэлі мускулы,
як паружовеў твар!
Цяплом закалыханая,
шчабеча дзетвара.
Канікулы жаданыя -
цудоўная пара!

# НАШЫ АДЗІНОКІЯ СТАРЫЯ
## - 3 -

Маладыя цяпер занадта дзелавітыя, рацыянальныя, ім няма калі прыслухоўвацца да таго, што адбываецца ў душы другога чалавека. Таму так важна навучыцца дабрыні і любові, навучыцца аддаваць душэўнае цяпло і атрымліваць яго ў адказ. Нішто так не выхоўвае павагу да старэйшых у сям'і, як памяць аб сваіх продках, бо гэта нашы карані, наша радаслоўная. Веданне сваёй радаслоўнай каштоўна не толькі ў пазнавальным, але і ў маральным плане. У. А. Сухамлінскі пісаў: "Мудрасць вякоў захоўвацца ў кнігах і нашай гісторыі, а багацце народнай душы захоўвацца ў памяці, сэрцы, у справах старэйшых пакаленняў - тваіх дзядоў і бацькоў. Тым, чым ты стаў і чым станеш у будучыні, ты абавязаны старэйшым пакаленням".

"Слова вучыць, прыклад вядзе", - гаворыць народная мудрасць. Калі бацька едзе вечарам наведаць сваю хворую старэнькую маці, едзе стомлены і заўтра не выспіцца, гэтым ён выхоўвае ў сваім сыне чалавечнасці больш, чым тысячай натацый. Сіла дружнай сям'і - ва ўзаемнай любові і душэўнай блізкасці, у пачуццях клопату і павагі, якія аб'ядноўваюць усіх яе членаў - і маладых, і старых - у адно цэлае.

Успомнім, як у Л. М. Талстога ў рамане "Вайна і мір" Ростовы чулліва адносяцца да старых бацькоў, як імкнуцца саступіць ім, прадугледзець усе іх жаданні. А калі старыя гавораць або робяць нешта не тое, толькі рэдкім позіркам абменьваюцца яны ды сумнай паўусмешкай. І позіркі гэтыя азначаюць, што "яна (графіня Растова) зрабіла ўжо сваю справу ў жыцці, што і ўсе мы будзем такімі ж, і што радасна пакарацца ёй, стрымліваць сябе для гэтай, калісьці дарагой, некалі такой жа поўнай, як і мы, жыцця, а цяпер вартай жалю істоты. Толькі зусім дрэнныя і дурныя людзі... не разумелі гэтага і цураліся яе".

Чаму ў адносінах паміж блізкімі людзьмі наступае аднойчы рэзкая змена? "Была я патрэбнай маім дзецям у цяжкія для іх гады, калі ім была неабходна мая дапамога, - расказвае Ніна Міхайлаўна. - Нават тады, калі іх дзеці былі зусім маленькімі, я, шкадуючы сваіх маладых, давала ім магчымасць і ў кіно схадзіць, і на адпачынак паехаць, і вучыцца на курсах. А вось цяпер дайшло да таго, што ўжо і кавалкам хлеба сталі папракаць. Хаця я атрымліваю пенсію, і яна ідзе ў агульны сямейны "кацёл", але дома робяць вывад, што яе проста не існуе. Ці ж не крыўдна?"

Ніхто не будзе спрачацца, што клапаціцца аб бацьках - наш доўг. Але клопат, прадыктаваны толькі пачуццём доўгу, не сагрэты душэўным цяплом, прыгнятае і крыўдзіць старых.

... Дачка, выйшаўшы замуж, стала саромецца маці: нямоднае адзенне Валянціны Пятроўны, яе нясмелая ўсмешка неяк "не ўпісваліся" ў элегантнае акружэнне Галіны, і дачка званіла маці толькі тады, калі патрэбна была яе дапамога.

Пачуццё дабрыні, спагады, глыбокая пашана да ўсяго святога ў нашым жыцці - а гэта перш за ўсё сыноўні доўг - выхоўваюцца ў чалавеку не павучаннямі, а ўласнымі ўчынкамі, паводзінамі.

З гадамі мы мяняемся, і зусім магчыма, што к старасці ў характары чалавека больш рэзка абазначаецца тое, што раней ён стрымліваў намаганнем волі. І напэўна, адбываецца гэта таму, што бацькі на схіле гадоў маюць права на памяркоўнасць, паблажку, увагу і тую ж самаадданасць, з якой яны самі чэрпалі сілы, выхоўваючы дзяцей.

Зараз усё часцей старыя скардзяцца на чэрствасць і раўнадушнасць сваіх дарослых дзяцей, просяць уладкаваць іх у дом састарэлых, каб пазбавіцца ад тых несправядлівых папрокаў і крыўд, якія яны атрымліваюць ад блізкіх. Часам падобныя канфлікты рашаюцца праз суд, які абавязвае дзяцей плаціць аліменты для састарэлых бацькоў. Але ніякія аліменты не могуць абляпчыць для старых адзіноту, маральнае адчужэнне ад самых блізкіх і іншых людзей.

Бо духоўная сувязь, як і любая з'ява духоўнага парадку, не мае патрэбы ў матэрыяльных стымулах, не залежыць ад іх.

Маці... Якой бы яна ні была, дарослыя дзеці павінны клапаціцца аб ёй. І па закону, і па сумленню. Горкім і няпростым бывае часам гэты клопат. Таму іншыя і не вытрымліваюць, аддаюць сваіх бацькоў у дамы састарэлых. А другія дзеля маці гатовы на ўсё.

Напэўна, менавіта такія ўзаемаадносіны, у якіх ёсць месца тактоўнасці, увазе адзін да аднаго, дабрыні, уменню даравaць, дапамагаюць пазбягаць канфліктаў у сямейным жыцці. Ці многа старым патрэбна? Каб сын ці дачка заехалі ў свята на гадзінку, пасядзелі за шклянкай чаю, спыталі пра здароўе, купілі лякарствы, прадукты, каб прывозілі ўнукаў не толькі, калі бягуць у кіно або тэатр.

Мікалай Астроўскі неяк пісаў жонцы: "Памятай аб нашых маці... Мы ім столькі павінны... А аддаць ім нічога не паспяваем".

*(Працяг у наступным нумары)*

**В.БАЛЦЭВІЧ, Л.ГАРБАЦЕНКАВА**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

- У мяне ёсць два папугаі, - хваліцца Пеця сябру.
- А навошта табе аж два? - дзівіцца той.
- Бо адзін гаворыць па-іспанску, а другі перакладае.

* * *

Настаўніца тлумачыць вучням:
- У кілаграме - тысяча грамаў. А ты нешта хочаш спытаць, Юрка?
- Так. А колькі грамаў у тэлеграме?

* * *

У цягніку сядзяць два хлопцы. Прыходзіць кандуктар і правярае білеты. А калі ўжо хацеў выходзіць, пачуў:
- Бачыш, і не пазнаў!
Кандуктар павярнуўся і спытаў:
- Што не пазнаў?
- Вы не пазналі, што мы паміж сабою білетамі памяняліся.

* * *

Кантралёр пытаецца ў рыбалова:
- А ў вас карта вудзільшчыка ёсць?
- Мне не патрэбна, - кажа рыбалоў. - Я лаўлю і без яе.

* * *

Лекар прыпісаў Юрку акуляры. Вечарам, калі трэба было класціся спаць, Юрка не хацеў здымаць іх.
- Чаму? Навошта табе ў час сну акуляры? - здзіўляецца мама.
- Я хачу і ў сне, мамачка, добра бачыць!

* * *

- Ты чуў, Максімкаў сабака ўмее гаварыць.
- Чуў! Мне пра гэта мой сабака сказаў.

* * *

- Ты чаму спазніўся? - пытаецца настаўніца ў вучня. - Ужо палавіна ўрока прайшла!
- Я спазніўся, бо так старанна мыў вушы і шыю. Але я абяцаю, што гэта больш ніколі не паўторыцца, - тлумачыцца вучань.

* * *

Маці да дачкі:
- Гэты світар ты для сябе вяжаш? Не завялікі будзе ён?
- Не, мамачка, - адказвае дачка, - пакуль я яго зраблю, дык вырасту.

**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**

*АНАТОЛЬ КЛЫШКА*

## У ЛЯСАХ БЕЛАВЕЖЫ

Ідзеш па пушчы і - не адарваць вачэй ад лясной красы: дуб, ясень, граб, хвоя, клён, бяроза, асіна, елка, чорная вольха.

Пушча ёсць новая і новая. У ёй няма аднастайнасці паўночнага таежнага лесу.

Плямістая скурка аленяняці робіць непрыкметным яго на фоне покрыва пушчы - нібы яркія промні сонца, што прабіліся праз лістоту. Яна добра хавае малечу ад благога вока рысі ці забеглага ваўка. Бо маці-аленіха не зможа ў бядзе ўратаваць ад драпежніка сваё дзіця. Яе самую ратуюць толькі ногі. Але ў аленяняці ёсць у Белавежскай пушчы надзейныя абаронцы - зубры. І аленяня спяшаецца прыстаць да зубрынага статка.

Лясны прыгажун - пушчанскі лось з сухою галінкаю рагоў. Узімку ён скінуў іх. І цяпер нібы засаромеўся, што аблысеў.

Завостраныя галоўкі дрэў, плацінына рэчцы выдаюць месца жыхарства баброў-лесарубаў.

А што гэта? Пад дубам шышкі? Адкуль яны тут узяліся? У расколіне між кары дуба дзяцел зрабіў "кузню". Заклініў там яловую шышку і носам туктук. Дастане семкі, а шышку спіхне ўніз. І зноў ляціць на яліну па новую шышку.

У зайчыхі вывеліся першыя зайчаняты. Вунь яны - пухнатыя клубочкі - сядзяць у ямцы пад кустом, прыціснуўшы вушы да спіны. І дрыжаць - ад холаду і голаду. А дзе іх мама? Можа, яе высачыў звер ці напалохала якая птушка? Адзін паратунак - добры заячы звычай. Якая б зайчыха ні бегла тут, спыніцца і напоіць іх цёплым малачком.

А вунь шпак гоніцца за вавёркай. Імгненне - і поўная дзюба поўсці! Мякка будзе ў гняздзе маленькім шпачкам.

Івалга падвешвае гняздо на галіну, і яе дзяцей люляе вецер. А ў ластаўкі-беражанкі і блакітнага зімародка замест звычайных гнёздаў - норы.

Увесну і ўлетку, увосень і ўзімку - ніколі не моўкне ў пушчы птушыная песня. Свішча шпак, цінькае сінічка, стракоча сарока, кракае качка, буркуе голуб, кукуе зязюля, цёхкае салавей, клякоча бусел, курлыкае жораў.

Дзікі, як вядома, найбольш любяць бульбу. Тут для іх зімой парасkідана бульба, буракі, морква. І венікі, але не для падлогі. Узімку яны - найлепшы корм зубрам, аленям, сарнам. Цяжка прыйшлося б вялікаму пушчанскаму статку, калі б не увага чалавека. І ў многіх мясцінах зроблены вадапоі, пакладзена соль. Ёсць цэлыя кармавыя паляны. На іх для звярыны сеюць жыта, авёс, ячмень, канюшыну, проса. Выбірай на свой густ - і еш.

Белавежская пушча - запаведнік. Усякі звер, усякая птушка павінны быць пад аховаю чалавека.

# А*Д*Г*А*Д*А*Н*К*А

*Давядзі вожыка да кожнага яблыка.*

*АЛЕСЬ ЖЫГУНОЎ*

## ДЗЕ НАЧУЕ АПЕТЫТ

- Дзе начуе рыба-кіт?
- У акіяне, нам вядома.
- Дзе начуе апетыт?
- Апетыт начуе дома,
Не на небе, не ў вадзе,
Дома.
- Дома? Толькі дзе?

Раніцой звініць будзільнік,
Нібы птушка ля ракіт.
І, адкрыўшы халадзільнік,
Выбягае апетыт,
Кажа:
- Я усё магу,
Снедаць вам дапамагу.

- Дзе ж начуе рыба-кіт?
- У акіяне, нам вядома.
- Дзе ж начуе апетыт?
- Апетыт начуе дома.

*ХВЕДАР ЖЫЧКА*

## ПОРХАЎКА

Кліча жук сваіх сябровак -
Божых кроплястых
каровак:
- Бубен я знайшоў ля гаю,
Вам "Лявоніху" сыграю.

Стукнуў ножкай:
- Бум! Бум! Бум!
Прэч, туга, журба і сум!
Весяліцеся, скачыце
Хоць да ночы на грудку,
Дзякуй шчырае скажыце
За знаходку мне, жуку.
Бум! Бум! Бум!

Ды раптам бубен
Лопнуў, сціхнуў назусім.
Толькі ўзняўся чорным
клубам
Па-над ім атрутны дым.
У жука стаў чорны твар,
Ну не жук, а камінар.

І кароўкі з віскам, з крыкам,
Цуд убачыўшы такі,
Ад мурзатага музыкі
Разляцеліся ў бакі.

## БЯСКОНЦАЯ ХЛУСНЯ
*Латышская народная казка*

Паслухайце, што я раскажу. Бачыў я, як два смажаныя пеўні ў паветры беглі, хуценька-хуценька беглі жыватом да неба, а спіною да зямлі. Кавадла і жорны павольна-павольна Даўгаву пераплылі, а жабка на другім беразе на льдзіне сядзела, два лемяшы з'ела. Было гэта якраз на Іванаў дзень. А тры мужыкі надумалі жывога зайца злавіць. Ішлі яны на драўляных нагах: першы быў сляпы, другі нямы, а трэці і нагою не мог паварушыць. Аднак сляпы першы зайца убачыў, нямы кульгаваму сказаў, а кульгавы зайца злавіў. А яшчэ надумаліся людзі па сушы на караблях плаваць. Плылі яны палямі - па жыце ды ячмені, пакуль на высокую гару не заплылі, дзе і патанулі. Рак, як сабака, зайца ганяў, а на даху карова ляжала, сама туды забегла. І ў тым баку мухі такія вялікія, як у нас козы. А зараз час вокны адчыніць, каб хлусня вылецела.

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

## ПАЛЯВЫ МАК — НЕ ТОЛЬКІ ПРЫГОЖАЯ КВЕТКА

Палявы мак (*Papaver rhoeas* L.) гэта аднагадовая расліна (часамі — двухгадовая), якая, як мяркуюць, паходзіць з міжземнаморскай зоны. У даны момант расце дзіка ў многіх еўрапейскіх краінах. У Польшчы можна сустрэць яе на нізінах і ў падгорных раёнах. Палявы мак — пустазелле, якое расце на палях і аблогах.

Вялікія, чырвоныя кветкі з чорнай плямай у сярэдзіне з'яўляюцца таксама лячэбнай сыравінай. Ад мая да жніўня збіраюць пялёсткі расцвітаючых кветак палявога маку (робяць гэта вельмі далікатна, каб не памяць ці не заламаць іх у пальцах) і сушаць хутка, разлажыўшы адным пластом, у цені і прадуўным месцы або ў ацяпляемай сушарні пры тэмпературы 30°C.

Пры сушэнні пялёсткі палявога маку змяняюць колер з чырвонага на ружова-фіялетавы. Пялёсткі, заламаныя пры зрыванні, цямнеюць у часе сушэння і не падыходзяць для ўжытку. Такія трэба адкінуць. Сыравіну кветкі палявога маку (*Flos Rhoeados*) захоўваюць у сухім і цёмным месцы, у шчыльнай упакоўцы.

Адвары з кветак палявога маку прымяняюць унутрана пры хваробах рота і горла, пры хранічным сухім кашлі, пры болях у горле і хрыпаце. Карысна спалучаць іх з іншай сыравінай, якая дапамагае адкашлівацца, напрыклад, з кветкамі першацвету.

Адвары гэтыя робяць таксама на супакаенне пры празмерным узбуджэнні і бяссонніцы, выкліканай, напрыклад, кашлем, асабліва ў дзяцей і пажылых людзей.

У якасці знешняга леку адвары з палявога маку выкарыстоўваюцца для паласкання рота, дзёснаў і горла, для ірыгацыі пры запальных станах похвы і для кампрэсаў на вочы.

Пры карыстанні кветкай палявога маку нельга перавышаць рэкамендуемыя дозы, паколькі можа гэта выклікаць нуднасць і санлівасць.

**Адвар з кветак палявога маку**

2 лыжкі кветак заліць шклянкай летняй вады. Падаграваць да кіпення і варыць пад покрыўкай 2 мінуты. Настаяць 10 мінут і працадзіць.

Дарослыя прымаюць па 1/4 шклянкі, дзецям даюць 1—2 лыжкі 3—5 разоў у дзень пры доўгатрывалым кашлі. Дзецям рэкамендуецца дадаць да 1/2 шклянкі адвару 2 лыжкі цукру або мёду, каб атрымаўся сіроп, і даваць 1—2 лыжачкі сіропу 3—5 разоў у дзень.

**Супакойваючы адвар**

Змяшаць па 20 г кветак палявога маку і лісця мелісы. Заліць 1 лыжку сумесі шклянкай гарачай вады і паставіць пад покрыўкай на пары на 15—20 мінут. Настаяць яшчэ 10 мінут і працадзіць. Піць 1/4 шклянкі 2—3 разы ў дзень пры бяссонніцы і станах нервовага ўзбуджэння.

**Паласканка супрацьзапальная**

Змяшаць па 20 г кветак палявога маку і кветак рамонку. Заліць 1 лыжку сумесі шклянкай кіпетню і напарваць пад покрыўкай 15 мінут. Настаяць 10 мінут і працадзіць. Паласкаць рот і горла, класці абмочаную ў паласканцы вату на вочы, рабіць ірыгацыю.

**ЭСКУЛАП**

## АДНАК, ПРАДАЛІ

Мой найлепшы сябра, яшчэ з гадоў „камуны”, так пісаў: „Чалавек, які забывае родную мову, можа забыць аб усім. Можа веру бацькоў прадаць”. Святыя словы. Таму мне так здаецца, што аўтар іх — малагрэшны. Веру яму. Праўда, з сябрам на барыкадах ці ў бітве мы жыццём не кляліся, аднак сяброўства нашае было адданае. Як такому чалавеку не верыць? Крыўда была б. Аднаго толькі зразумець не магу: ў жыцці інакш бывае; не выходзіць так, як сябра кажа. Колькі людзей веру сваю прадалі, а мовы сваёй не забылі, хаця і моляцца на другой, на польскай. Спытаў я аднойчы: — Чаму на сваёй, на беларускай, не моліцеся? Можа Гасподзь на гэтай мове вас не разумее? — Не, — кажуць, — на польскай лепей, і кніжачкі для малітвы ў нас польскія. Пытаю тады: — А ўсе чытаць умеюць? — Гэта нічога, Гасподзь зразумее. — Дык ён жа і нашу, беларускую, мову зразумее — кажу. Ціішыня — няма адказу. А ёсць яшчэ такія, што чужую мову вывучылі і разумнымі сталі, і тыя веру бацькоў патапталі! Аднойчы запытаў я такога, сведку Яговы, які раней быў праваслаўным: — Чаму веру бацькоў прадаў? Дрэнная была? Дрэнных учынкаў вучыла? Ці можа яшчэ чаго горшага ў ёй дашукаўся? — Не, — гаворыць, — не ведаў яе. — А гэту новую ведаеш? Яна ўжо лепшая? Ці можа табе што прыснілася, можа нейкае бачанне меў, каб веру змяніць? — Не, нічога такога не здарылася, нічога не снілася, так выйшла. — Выйшла веру прадаць, цікавая справа, — кажу. — Пэўна, цяпер жывым на неба пойдзеш? — Не ведаю, — адказаў. Вось такая размова, без пачатку і канца. А можа тут матэрыяльныя справы важныя; так у людзях гавораць. Не мой гэта суд. Вядома адно: людзі не ўсё пойдуць. І не дай Божа, каб словы сябра здзейсніліся. Многа маладых вывучае чужыя мовы і калі сваю забудуць, тады наробіцца іншаверцаў! Наш краявід, адметны касцёламі і цэрквамі, папоўніцца мячэцямі, кірхамі і іншымі малельнымі дамамі, назваў якіх я яшчэ не ведаю.

**ГРЫША МАРОЗ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі дзядзька Астроне! Прысніўся мне ізноў цікавы сон. Быццам мы з мужам і малой дачушкай знаходзімся ў адным з прыморскіх гарадоў, здаецца, у Гдыні. Збіраемся катацца на лодцы. Лодка даволі вялікая — такая як бы яхта.

Мы з мужам селі ў лодку (яна неяк паменшылася, стала невялікая, звычайная, з вёсламі), а дачушка ніяк не можа ў яе ўлезці з берагу (лодка яшчэ прычэплена). Я і кладу на бок гэту лодку, каб ёй было зручней, але нічога не выходзіць.

Мы з мужам адплываем на сярэдзіну заліву. Пачынаецца шторм. Лодку кідае ва ўсе бакі, і я ўжо бачу, што не толькі няма маёй малой дачушкі, якая засталася на беразе, але і майго мужа няма са мной у лодцы. Я бачу, што ён быццам на другім беразе. Стаіць і паказвае мне, куды я маю веславаць, у які бок. Лодка аж кладзецца, бо шторм, а я не адчуваю ніякага страху. Толькі вось бяда, што я зусім страціла арыентацыю. Адна ў моры... Праўда, быў гэта толькі заліў, бо навокал быў бераг, на якім стаялі дамы. Хапаю ў рукі вёслы і... прачынаюся. Кепскі сон, праўда, Астроне?!

**Настуся**

Настуся! У цябе нешта не ладзіцца са здароўем. А ў хваробе гэта зусім нармальна, што чалавек адзінокі. Думаю, што не будзе ўсё ж нічога трагічнага, бо і шторм быў, відаць, невялікі, і хвалі не залівалі цябе, і не было табе страшна. А да таго ж твой муж паказваў табе з берагу, у які бок трэба плысці. Шкада, што так хутка ты прачнулася, бо так, дык, думаю, і даплыла б да берага.

**АСТРОН**

## КАХАННЕ ГАСПАДАРА ЮЛЬКА

Юлек быў адзіным сынам у бацькоў. Спадзяваўся на яго бацька.

- Гаспадар расце! - заўсёды казаў ён суседзям.

Калі Юлек вырас і адбыў войска, бацькі перапісалі гаспадарку на яго. Але сумна ў самоце. Захацеў Юлек шлюбам пабрацца. Шукаў нявесту на вёсцы, але дзеўкі казалі:

- Каб жыў ты ў горадзе, тады б яшчэ падумалі, а на вёсцы жыць не хочам.

З Зінай пазнаёміўся на танцах. Сказала яна, што пойдзе і на вёску. Хадзілі разам месяцы два, і неўзабаве адбылося вяселле.

Калі апошні госць даў маладым вясельны падарунак, Зіна паклала ўсе рэчы ў валізку і наладзілася да дзвярэй.

- Не, перадумала я, - кажа, - не хачу на вёсцы жыць. Як пераедзем у Беласток, то будзем разам, а калі не хочаш - дык як сабе хочаш.

Паехала яна ў Беласток, наняла кватэру і зажыла там.

Юлек час ад часу прыязджае. Не ведае небарака, што і рабіць: і жонку кінуць не можа, бо кахае, і без гаспадаркі не можа. Так і дагэтуль ездзіць. Зіна не думае вяртацца на вёску, а Юлек не можа кінуць гаспадаркі...

**АЎРОРА**

## КУХОННЫЯ ПЯРЭДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**БЛІНЫ З МОРКВАЙ**

Прадукты:

*4 вялікія морквіны,*
*5 дэкаў разынак,*
*5—6 яек,*
*2 лыжкі смятаны,*
*300 мл малака,*
*1/2—3/4 шклянкі мукі,*
*1—2 лыжкі маргарыну,*
*соль.*

Моркву памыць, ababраць, сцерці на дробнай тарцы, дадаць разынкі (перад гэтым абліць іх кіпетнем). Стушыць на тлушчы. Падрыхтаваць цеста, як на блінчыкі, з жаўткоў, малака, смятаны і мукі. З бялкоў збіць пену. Цеста перамяшаць з астуджанай морквай і збітымі бялкамі. Пасаліць па смаку і смажыць на патэльні, як бліны.

**ГАСПАДЫНЯ**

## КРЫЖАВАНКА

**Управа:** 3. род мастацкай літаратуры, 8. гатуе стравы, 9. малочны прадукт, 10. абрэвіятура афіцыяльнай назвы Паўночнай Карэі, 11. мусульманскае прывітанне, 13. здольнасць, спрыт, 15. навука пра жыццё, 16. шкодны грызун, 20. агульная колькасць жывёлы, 22. уласнік, уладальнік, 23. горад у Японіі, 27. горад на Гродзеншчыне, адтуль „Лявоны”, 29. галаўны ўбор караля, 30. узвышэнне ў царкве, 31. тоўсты кій, 32. каштоўны метал, 33. жывёла з галінастымі рагамі, 34. на раслінах летняй раніцай.

**Уніз:** 1.някемлівы, неразумны чалавек, 2. трапічная птушка сямейства буслоў, 4. жонка Адысея, 5. інструмент для стругання, 6. пасуда, у якой купаліся або мылі бялізну, 7. кніга В. Петручука, 12 прыбор, які пераўтварае гукі ў электраток, 14. даўней Нязбодка, 16. ёю паганяюць жывёлу, 17. рака ў Венгрыі і Румыніі, 18. суцэльны круг, 19. еўрапейцская сталіца, 21. горад на поўдзень ад Мадрыда на рацэ Таха, 24. краіна на ўсходзе Афрыкі, 25. ткацкі станок, 26. паэма В. Дуніна-Марцінкевіча, 27. непрыяцель, 28. радыёлакатар.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 20 н-ра:** гора, гром, мозг, груз, граб, грыб, торг, туга, ігра, Рыга, гоні, нага, гама, гума, гімн, гмах.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі **Анна Дзямянюк і Яраслаў Грыгарук** з Бельска-Падляшскага.

Ніва

**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Выбаршчык** — чалавек, які атрымлівае асалоду ад карыстання свяшчэннай прывілеяй — галасавання за кандыдата, якога ён зусім не ведае.

**Выгнаннік** — той, хто служыць сваёй дзяржаве за мяжой, але не з'яўляецца яе паслом.

**Вадзьмарка** — 1. брыдкая, агідная старуха, якая знаходзіцца ў сувязі з д'яблам; 2. вельмі прыгожая маладая жанчына, якой у хітрасці нават д'ябал не сапернік.

**Вяселле** — цырымонія, на якой дзве асобы спрабуюць зрабіцца адной, адна робіцца нічым, а нішто спрабуе забяспечыць гэты саюз.

**Галасаванне** — інструмент і сімвал дэмакратыі, з дапамогай якога свабодны чалавек робіць з сябе дурня, а краіну прыводзіць да заняпаду.

**Гандляр** — той, хто ўдзельнічае ў камерцыйным спаборніцтве. Мэтай гэтага спаборніцтва з'яўляецца долар.

**Ганьбіць** — 1. ілгаць пра чалавека; 2. казаць праўду пра чалавека.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*







*Мал. П. Козіча*

## ЖАРТАЧКІ

Адзін мужчына, ідучы ў Сафіі па вуліцы, заўважыў на зямлі дваццаціцэнтавую манету і нагнуўся, каб яе ўзяць. Толькі дакрануўся да манеты, як на яго наляцеў аўтамабіль. Пры аглядзе пракурор і ўрачы выявілі, што пацярпеўшы сціскаў у руцэ вялікі, бліскучы, як дваццаціцэнтавая манета, гузік, а паводле дакументаў, знойдзеных у кішэні нябожчыка, даведаліся, што ён з Габрава. У пратаколе была запісана наступная прычына смерці: „Перш за ўсё — смерць ад разрыву сэрца, пасля гэтага яго пераехаў аўтамабіль".

* * *

Жанчына пад'ехала да скрыжавання на сваім „Пежо" і прапускае зялёнае святло светлафора, потым чырвонае, потым зноў зялёнае і яшчэ раз чырвонае. Да яе падыходзіць паліцэйскі і галантна пытаецца:

— Мадэмуазель аддае перавагу нейкаму іншаму колеру?

* * *

— Майстар, вы ўсё гэта малявалі ўласнымі рукамі?

— Уласнымі. Трошкі яшчэ пэндзлем карыстаўся.

* * *

Дзядзька едзе цягніком з Беластока ў Варшаву. У купэ заходзіць кантралёр і правярае білеты.

— У вас білет з Варшавы ў Беласток. Ён неактуальны на гэты цягнік.

— Няўжо? Дык скажыце свайму машыністу, што поезд едзе не ў той бок!

* * *

Знаёмыя віншуюць адваката за тое, што ён дабіўся апраўдання яўнага злачынца.

— Вы былі проста цудоўны! — усхваляванa крычаць яны, перабіваючы адзін аднаго.

— Дзякую, — адказвае знакамітасць.

— Але, каб я выступаў не абаронцам, а абвінаваўцам, я яго абавязкова паслаў бы на шыбеніцу.

* * *

Ці можна лічыць маральна ўстойлівым суддзю, калі ён браў хабар?

— Можна, калі ён плаціў з яго падаткі.

* * *

— Стойце, стойце, — закрычаў фармацэўт і кінуўся за адным з пакупнікоў.

— У чым справа? — пытаецца той.

— Вы папрасілі ў мяне аспірын, а я вам памылкова даў мыш'як.

— А што, яны неяк адрозніваюцца? — здзіўляецца пакупнік.

— Канешне, з вас яшчэ пяць франкаў.

Падборку зрабіў
**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**



Толко не выкидайце мого листа, дочытайце до конца и задумайцеся. ... я Ниву од дауна ...

розумны человек. Показал он что они здецали и як вы имчаете дзе то в министерствах ничево не пишете про их цяжкую працу. На этом зездзе я зрозумеу что вы это здрадники и лайдаки и не варты таких людзей як Баршчэуски, Сычэуски и Цимошэвич нават у сраку поцаловати. Это они праудзивы белорусы обороня...

з тыми компутэрами по яких вы так доуго плакали. И што, маеце фигу. Хотелбы поздравить всих членов главного Правления БГКТ, шкода толко што выкинеце мой лист на сметник. У суд мене не зацягнете, але фамилии вам свое не напишу штоб той дурень Панфилюк не причапился. Усе мое прыяцели ведают что я пишу гэтот лист. Усе трымаем сторону товарыства и наших героев Баршчэуского и Сычэуского.

делегат з Гайнавской земли

## З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Толькі не выкідайце майго ліста, дачытайце да канца і задумайцеся. Чытаю я "Ніву" ад даўна і астатнім часам многа чаго не разумею. Калісь "Ніва" пісала пра гаспадарскія справы, пра нашых герояў, якія ваявалі з санацыйнымі і нямецкімі фашыстамі. Цяпер якіясь насмешкі з Леніна і камуністаў. Калі б вы былі дзецьмі беларусаў, ведалі б, што толькі камуністы навучылі нас пісаць і чытаць, далі ўсім хлеба наесціся. Я толькі дадумоўваюся, што ў "Ніве" штосьць не так. Вочы адкрыў мне Аляксандр Баршчэўскі на з'ездзе Таварыства, на якім я быў дэлегатам. То вельмі разумны чалавек. Паказаў ён, што яны зрабілі і як вы ім мяшаеце дзесьці ў міністэрствах, нічога не пішаце пра іх цяжкую працу. На гэтым з'ездзе я зразумеў, што вы здраднікі і лайдакі, і нявартыя такіх людзей, як Баршчэўскі, Сычэўскі і Цімашэвіч нават у сраку пацалаваць. Гэта яны - праўдзівыя беларусы - абараняюць нас перад ворагамі, і яны ўмеюць гэтае рабіць. Згаджаюся з тым, што гаварыў Баршчэўскі, што вы там у "Ніве" - гэта балота і мяцежнікі. За яўрэйскія грошы разбіваеце еднасць беларусаў. Але нашыя хлопцы справяцца з вамі, так як справіліся з тымі камп'ютэрамі, па якіх вы так доўга плакалі. І што, маеце фігу. Хацеў бы я прывітаць усіх членаў Галоўнага праўлення БГКТ. Шкада толькі, што выкінеце мой ліст на сметнік. У суд мяне не зацягнеце, але фаміліі сваёй вам не напішу, каб той дурань Панфілюк не прычапіўся. Усе мае прыяцелі ведаюць, што я пішу гэты ліст. Усе трымаем старану Таварыства і нашых герояў: Баршчэўскага і Сычэўскага.

Дэлегат з Гайнаўскай зямлі

**Ад рэдакцыі:** Спадар дэлегат, Вы вельмі прыгожа пішаце, дык прапануем Вам стаць нашым пастаянным карэспандэнтам. Але ў с.... цалаваць нікога не збіраемся.

## СЕНТЭНЦЫІ

Вечнасць — гэта бясконцы працяг кампліментарных здарэнняў.

* * *

Дзень большы, чым думаюць аптымісты.

* * *

Вецер знойдзе самую малую адтуліну, каб разлічыцца з ціпшу.

**БАРЫС РУСКО**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Мне ўжо 32 гады. Яшчэ я незамужняя. Але што пажыла, то пажыла. Зусім не лічу, што гэта страчаныя гады. А мая мама лічыць, што я прасвістала сваю маладосць. Магла б ужо даўно выйсці замуж ды падхаваць дзяцей — усё паўтарае мне.

А на маім твары маршчын няма затое. І хлопцаў на павадку ваджу. І ведаю іх крыху. Падабаюся я ім. Я невялічкая, уся мая постаць, кажуць яны, напамінае ім дзяўчынку. Але ўсё роўна ёсць і праблемы.

Сяброўкі хваляцца, якіх яны маюць хлопцаў. Вядома, ніхто не гаворыць пра тое, як цалуецца ці прытуляецца, а пра тое перш за ўсё, як выглядаюць іх справы ў ложку. Расказваюць рознае. Адна мерала свайму хлопцу, дык казала, на два кулакі ды яшчэ засталося. Другая паказала на сталe рукою — выйшла нешта каля 30 сантыметраў. Трэцяя хвалілася, што цяжка ёй са сваім кахацца па-французску, бо зашырокі і ў роце не месціцца. Чацвертая сказала, што ў яе партнёра член як бутэлька па піве, а ў пятай быў як ракета. Яшчэ ў іншых былі хлопцы, што маглі кахацца без перапынку па чатыры гадзіны, або па некалькі разоў падрад, будучы з кожным разам усё лепшым ды лепшым.

А што мне, сіраце, ім гаварыць? Было ў мяне хлопцаў нямала, але ўсе нейкія аднолькавыя, я б іх акрэсліла сераднячкамі. Усё неяк заўсёды было ў межах нормы: не завялікі член і не замалы, не задоўга кахаліся мы і не закароткa. Было добра, прыемна, але каб нешта ўразіла мяне, як гром з яснага неба, дык не скажу. Усё было звычайна і, магчыма, якраз не нарыўся такі хлопец, за якога хацелася б выйсці замуж.

Раней мне здавалася, што дастаткова паказацца ў кампаніі з новым (ды яшчэ прыгожым!) хлопцам, каб адчуваць сябе шчаслівай. Вядома ж, сяброўкі будуць зайздросціць, а мне гэта як мёдам па сэрцы. Але цяпер мне часамі здаецца, што лепш бы я мела аднаго, але такога, за якога мацібацьку гатова была б кінуць. Людзям жа вось шанцуе!

Слухай, Сэрцайка, а можа мае сяброўкі маняць?! Няўжо сапраўды здараюцца такія анамаліі? І чаму мне ніколі не трапіўся такі цікавы, іншы хлопец?

Ніка

Даражэнькая Ніка! Думаю, што твае сяброўкі не манілі. Тое, што называеш анамаліяй, зусім не мусіць быць ненармальным. Проста справы, пра якія ты пішаш: размеры члена, сіла мужчынскай патэнцыі, яны вельмі індывідуальныя. Адзін у гэтых справах лепшы, мацнейшы, другі — больш звычайны, як ты кажаш, сераднячок. Табе ў гэтых справах дагэтуль не надта шанцавала, бо, глянуўшы на тваю крухкую постаць, чалавек з саліднымі „размерамі" мог бы і паўстрымацца, мяркуючы, што цяжка вам будзе дапасавацца. А зусім не меў бы рацыі, бо выгляд не заўсёды ідзе ў пары з памерамі похвы.

Не перажывай! Усё яшчэ перад табою. Мо будуць і лепшыя. А на пацяшэнне магу табе сказаць, як у тым анекдоце: „Милая моя, такой иль такой, это неважно; главное, чтобы человек хороший был".

**СЭРЦАЙКА**